Падпісацца на «Народную Волю» можна ў любы дзень
у любым паштовым аддзяленні ці ў спецыялізаваных пунктах «Белсаюздруку».

На прастор, на шырокі разлог
Выходзі, мой народ, грамадою...
Якуб КОЛАС

№ 93 (4345)

23 лістапада 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

*Дзякуй за тое, што Вы прачыталі гэты нумар. Адгукніцеся, калі ў Вас ёсць заўвагі, меркаванні, прапановы.*
**Тэл. (8 017) 328 68 71**

**ВЕДАЙ НАШЫХ!**

## Святлана Алексіевіч атрымала яшчэ адну ўзнагароду



*Цяпер яна мае прэмію Honorary Central European ("Ганаровы грамадзянін Цэнтральнай Еўропы"), якая ўручаецца за ўнёсак у развіццё дэмакратыі і грамадзянскай супольнасці.*

Узнагарода была заснавана сёлета Цэнтральнаеўрапейскім форумам (CEF) – міжнароднай арганізацыяй, якая існуе ўжо дзесяць гадоў. А першай уганараванай гэтай прэміяй стала нобелеўская лаўрэатка Святлана Алексіевіч. Запрашальны ліст падпісаў прэзідэнт Славацкай Рэспублікі **Андрэй Кіска**, які адзначыў важнасць дзейнасці беларускай пісьменніцы. *"Ваша прысутнасць на цырымоніі будзе гонарам для народа маёй краіны"*, – напісаў ён.

Цырымонія ўручэння прэміі, прымеркаваная да ўгодкаў падзей 1989 года ў Чэхаславакіі, прайшла 17 лістапада ў Браціславе на плошчы Славацкага нацыянальнага паўстання. Падчас уручэння быў зачытаны ўрывак з кнігі Святланы Алексіевіч "Час сэканд-хэнд" у славацкім перакладзе.

У кансультатыўную Раду форуму ўваходзяць такія вядомыя інтэлектуалы, як Адам Міхнік (Польшча), Міклаш Харасці (Венгрыя), Славенка Дракуліч (Харватыя), а таксама іншыя еўрапейскія дзеячы культуры і палітыкі.

**СЛЫШАЛИ?**

## Порошенко нашел замену Кучме в Минске

*Президент Петр Порошенко назначил Евгения Марчука представителем Украины в Трехсторонней контактной группе по урегулированию ситуации в Донбассе.*

Об этом сообщила первый вице-спикер Верховной Рады Ирина Геращенко в Facebook.

*«Евгений Кириллович все эти трудные годы достойно представлял Украину в группе по безопасности. Он хорошо ориентируется в проблематике минских переговоров и будет жестко отстаивать национальные интересы Украины»*, – написала Геращенко.

Напомним, представителем Украины в ТКГ был второй президент Украины Леонид Кучма. Однако в конце сентября он заявил, что завершит работу в ТКГ, когда достигнет критического возраста.

Кучма был представителем Украины в Трехсторонней контактной группе (Украина, Россия, ОБСЕ) с 8 июля 2014 года по 2 октября 2018 года.

Евгений Марчук до этого был представителем Украины в подгруппе по безопасности Трехсторонней контактной группы в Минске.

**НОВЫЕ ИМЕНА**

## Сергей ЧЕРЕЧЕНЬ: «Я не злопамятный, но записываю...»

*Бывший коммунист. Ездит на «Лексусе». Плохо владеет белорусским языком (поэтому интервью с ним – на русском). Любит отдыхать за границей.*

*«Народная Воля» познакомилась с новым председателем партии «Белорусская социал-демократическая Громада» Сергеем Череченем.*



Сергей Черечень с женой и дочкой.

**– Сергей, скажите честно: зачем вам понадобилась головная боль в виде политической партии?**

– Мне 33 года, и всю свою сознательную жизнь я жил в стране, из которой мои ровесники и люди, с которыми я общался, стремились уехать. А я люблю свою Родину. И мне обидно, что так происходит. Мне хочется изменить эту тенденцию. Думаю, в этом смысле партия – сила.

**– Некоторые рассуждают так: молодой, амбициозный, умеет зарабатывать деньги – зачем ему политика? Кое-кто даже подозревает вас в сотрудничестве со спецслужбами...**

– Партия БСДГ уже долгое время не вела активной деятельности, значит, не представляла особой опасности для вертикали и не вызывала интереса у спецслужб.

Некоторые предполагали, что, когда Станислав Шушкевич покинет пост председателя, партия станет провластной, ведь ее возглавил бывший коммунист. Я реагирую на это весьма спокойно. Каждый имеет право заблуждаться.

Надеюсь, наша дальнейшая работа все покажет. Есть много профессий с риском для жизни. И тем не менее люди изо дня в день выполняют эту опасную работу, и не только из-за финансовой выгоды. Когда ребенок мечтает стать пожарным – это не воспринимается как глупость, потому что мечты иногда сбываются. Главное – верить и идти к своей цели. Так поступаю и я.

**– Что сказали ваши родители, когда узнали, что вы сменили Шушкевича?**

– Были немного озадачены. Но я уже давно вырос и имею свою точку зрения. Они меня всегда поддерживают. Хотя в чем-то бывают и не согласны.

*(Окончание на 2-й стр.)*

**КРОПКІ НАД «І»**

## Анжаліка БОРЫС, старшыня непрызнанага беларускімі ўладамі Саюза палякаў Беларусі: «Не хацелася б раздуваць скандал...»

*11 лістапада Польшча адзначыла стагоддзе аднаўлення незалежнасці. З гэтай нагоды вечарам 19 лістапада ў Мінску мясцовае аддзяленне непрызнанага беларускімі ўладамі Саюза палякаў Беларусі ладзіла святочны канцэрт. На імпрэзу быў запрошаны пасол Польшчы ў Беларусі Артур Міхальскі.*

*Аднак мерапрыемства скончылася, не паспеўшы пачацца: вартаўнік будынка сказаў, што выключае святло і запатрабаваў разыходзіцца.*

Чаму быў сарваны канцэрт? З тэхнічнай прычыны ці гэта своеасаблівы ціск на непрызнаную ўладамі арганізацыю?

– Усё гэта, канешне, непрыемна, – кажа старшыня арганізацыі **Анжаліка Борыс.** – Зала была поўная, сабралася больш за 200 чалавек, не ўсім нават месца хапіла. Амбасадар Польшчы, супрацоўнікі пасольства прыйшлі, музыканты. Для Польшчы гэта важнае дзяржаўнае свята...

**– Анжаліка, а дзе канкрэтна праходзіла мерапрыемства?**

– Я не мінчанка, дакладнага адраса не ведаю, здаецца, гэта вуліца Чапаева... Але ж папярэдне былі зменены тры адрасы. У двух адмовілі на стадыі перамоў, а з трэцяй залы прыйшлося сыходзіць літаральна за 20 хвілін да канцэрта: перад памяшканнем ужо сабраліся сябры саюза, калі паведамілі пра адмову ў арэндзе (*паводле слоў кіраўніка мінскага аддзялення непрызнанага ўладамі Саюза палякаў Алены Марчукевіч, у гэтым памяшканні арганізацыя неаднойчы праводзіла мерапрыемствы і ніколі не ўзнікала ніякіх пытанняў. – **М.Э.**).*

На Чапаева – гэта было чацвёртае месца. Але і тут, як бачыце, не выйшла...

Людзі адрэагавалі на патрабаванне вартаўніка спакойна.

**– Раней такое здаралася?**

– На жаль, здаралася. Так, увесну 2016 года ў Гродне святло адключылі нават у будынку консульства Польшчы: быццам бы нейкі провад нехта пашкодзіў... Наш саюз там арганізоўваў конкурс для дзяцей, сабралася больш за 100 дзетак, была дэлегацыя з Варшавы, з Сената, і за паўгадзіны да мерапрыемства адключылі электрычнасць. Прыйшлося падключаць генератар, каб працавалі мікрафоны.

**– На ваш погляд, чаму так адбываецца? Можа, такім чынам беларускія ўлады хочуць вас падштурхнуць да аб'яднання з афіцыйным Саюзам палякаў? На фоне актывізацыі адносін з Еўропай, з Польшчай, напэўна, афіцыйны Мінск хацеў бы бачыць у Беларусі адзіны Саюз палякаў?**

– Такімі метадамі не падштурхоўваюць... Так можна толькі раззлаваць людзей.

Я думаю, усім зразумела, што такое аб'яднанне немагчымае. Мы не дзейнічаем як незарэгістраваная арганізацыя. Усе нашы дзеянні на ніве польскай мовы, традыцыі і культуры легальныя. Мы як былі арганізацыяй, якая стварылася 30 гадоў таму, так ёю і застаемся. Улады не прызнаюць кіраўніцтва – мяне, маіх наменікаў, але як можна не прызнаць амаль 12 тысяч сябраў арганізацыі, якія не падпарадкоўваюцца старшыні, па сутнасці, абранаму беларускай уладай? У нас склалася такая ж сітуацыя, як і з Саюзам пісьменнікаў: адных улады прызнаюць, другіх – не. Але ж не ўлада, не дзяржава мусіць кіраваць, як дзейнічаць грамадскай арганізацыі, гэта наша ўнутраная справа... Мы не займаемся палітыкай, мы не ладзім нейкія там мітынгі ці яшчэ невядома што, каб нас абвінаваціць у распальванні міжнацыянальнай варожасці. Мы хочам, каб нашы дзеці ў Беларусі маглі вучыцца не толькі на беларускай, але і на польскай мове, у нас дзейнічаюць школы выхаднога дня, спартыўныя гурткі, мы дбаем пра польскія мемарыялы ў Беларусі і г.д.

**– Анжаліка, але вернемся да гэтага прыкрага інцыдэнту з сарваным канцэртам. Вы ўсё ж такі запатрабавалі нейкіх тлумачэнняў?..**

– Скажу шчыра: не хацелася б раздуваць скандал. У нас шмат работы, навошта засяроджвацца на тым, што ўсё роўна не дасць выніку. Нічога мы не высветлім...

**ДАСЛОЎНА**

### Рыма ЕПУР, дырэктар бізнес-інкубатара: «Я ім не адмаўляла!»

"Народная Воля" высветліла, што зала, дзе адбыўся інцыдэнт з сябрамі непрызнанага ўладамі Саюза палякаў, – гэта вядомая ў Мінску прастора "210 METROV", якая належыць дзяржаўнай структуры – Інкубатару малога прадпрымальніцтва.

Дырэктар інкубатара **Рыма Епур** кажа, што ўся гэтая сітуацыя – суцэльная недарэчнасць. Паводле яе слоў, у групе, якая прыйшла на святкаванне стагоддзя аднаўлення незалежнасці Польшчы, была дзяўчына, якая калісьці арандавала "210 METROV" і была знаёмая з менеджарам па продажах інкубатара. Калі сябрам саюза адмовілі ў арэндзе папярэдняй залы, яна патэлефанавала менеджару і сказала, што прыедзе, каб абмеркаваць правядзенне мерапрыемства ў зале "210 METROV".

– Але раптам у залу заходзяць прыкладна 200 чалавек, – каменціруе Рыма Епур. – А ў нас ёсць сістэма кантролю, яна адладжаная. Мне тэлефануе ахоўнік і кажа: па графіку няма ніякіх мерапрыемстваў, а ў "210 METROV" зайшлі людзі. Што рабіць?

Безумоўна, ён праз нейкі час папрасіў іх пакінуць памяшканне, у іншым выпадку ахоўніку давялося б выклікаць міліцыю. Таму што без дамовы – гэта незаконнае ўварванне ва ўласнасць. А дамовы на аказанне паслуг не было! Гэтая ж зала здаецца пагадзінна ў арэнду толькі па ўзгодненай дамове, замацаванай подпісамі. Нават перадаплата не з'яўляецца дамовай. І я як кіраўнік не мела права без рэгістраванай дамовы дазволіць правядзенне мерапрыемства. Мы жывём у прававой дзяржаве!

**– Калі б арганізатары звярнуліся да вас загадзя, вы не былі б супраць такога мерапрыемства на тэрыторыі інкубатара?**

– Калі б яны звярнуліся загадзя, ім быў бы прадастаўлены дагавор, і я са свайго боку яго падпісала б. Яны загадзя звярнуліся ў іншыя тры залы, дзе ім, кажуць, адмовілі. Я ім не адмаўляла!

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

**P.S.** Застаецца нявысветленай адна акалічнасць – хто канкрэтна і на якой падставе адмовіў у прадастаўленні памяшкання для правядзення вышэйзгаданага мерапрыемства. Аб гэтым чамусьці маўчаць яго арганізатары.

**БЕЗ ГРИФА «СЕКРЕТНО»**

## Список будет прозрачным



Вы не заняты в экономике страны? Что ж, об этом вскоре узнают все.

Как сообщила на семинаре в Витебске министр труда и соцзащиты **Ирина Костевич**, доступ к базе данных не занятых в экономике Беларуси должен быть открыт 1 декабря на Едином портале электронных услуг. Получить интересующую информацию сможет любой житель страны.

**Галина БЕЛЯЦКАЯ.**

**РАКІРОЎКА**

## Генадзь Фядыніч пакінуў пасаду кіраўніка

*Выконваць абавязкі старшыні прафсаюза РЭП да 2020 года будзе Зінаіда Міхнюк.*

Учора адбылося пашыранае пасяджэнне Савета прафсаюза РЭП, падчас якога вырашалася і пытанне, хто будзе зараз кіраваць арганізацыяй. Нагадаем, што па рашэнні суда цяпер ужо былому старшыні прафсаюза РЭП Генадзю Фядынічу забаронена займаць кіруючыя пасады тэрмінам на 5 год.

*"Паміж з'ездамі толькі савет можа браць на сябе адказнасць у прыняцці рашэнняў,* – кажа **Генадзь Фядыніч**. – *У мяне не было іншага выйсця, я не магу, згодна з рашэннем суда, займаць кіруючыя пасады. Калі б застаўся старшынёй, то ўлады маглі ўжыць санкцыі і да прафсаюза. Але такой магчымасці мы ім не дадзім. Зінаіда Міхнюк да гэтага часу была маім намеснікам і кіраўніком прафсаюза РЭП у Брэсцкай вобласці. Думаю, яна справіцца. Тым больш што і я застаюся ў прафсаюзе. На савеце адмыслова была ўведзена пасада саветніка-кансультанта, я яе і заняў. Таму зараз не буду лічыцца кіраўніком арганізацыі, але ж працягну працаваць, як і раней".*

Зінаіда Міхнюк будзе выконваць абавязкі старшыні да 2020 года, калі пройдзе з'езд прафсаюза.



*"Для мяне такое прызначэнне не было асаблівай нечаканасцю,* – распавяла яна "Народнай Волі". – *Калі стала вядома пра прысуд, ужо тады ішла размова пра маю кандыдатуру. Наш прафсаюз – адна каманда, таму, мяркую, праблем у маёй працы не будзе. Заўсёды ёсць да каго звярнуцца".*

**Алесь СІВЫ.**

Народная Воля http://www.nv-online.info
23 ЛІСТАПАДА 2018 г.

НОВЫЕ ИМЕНА

## Сергей ЧЕРЕЧЕНЬ:

# «Я не злопамятный, но записываю…»

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

**– Сегодня многие партийные лидеры жалуются на проблемы с финансированием, некоторые партии в долгах как в шелках. Станислав Шушкевич откровенно говорил, что положение в партии настолько непростое, что он даже думал закрыть региональные офисы – не было средств их содержать. Как сейчас у БСДГ с финансами?**

– Все финансовые вопросы я пока взял на себя. Надеюсь, что в будущем нас будет поддерживать бизнес-сообщество.

**– После выборов вы озвучили довольно амбициозные планы: *«Для начала мы должны выстроить жесткий каркас для нашей партии и быть представлены в каждом населенном пункте с количеством жителей более 10.000 человек»*. Но сейчас такие времена, когда люди сторонятся любых партий. Какими пряниками будете их привлекать?**

– Я не согласен, что не хотят. Боятся. Боятся потерять работу, контракт, какие-то бонусы. Но страх испытывают не только те, кто приходит в партии. Любой чиновник или госслужащий точно так же сидит и боится. Боится принимать решения, боится быть «не как все». Наша цель – объединить людей. Не поодиночке, а именно вместе мы точно сможем изменить окружающий мир в лучшую сторону. У нас не будет крайних, мы постараемся быть командой.

**– Известно, что БСДГ – не самая активная белорусская политическая партия. У вас есть пошаговая стратегия действий, как сделать партию успешной и узнаваемой?**

– Мы сейчас работаем над программой партии и концепцией ее развития. Предстоит решить много и мелких, и глобальных вопросов. Наша партия должна в первую очередь думать о людях, потому что именно от каждого из нас зависит то, как мы живем.

**– Мне кажется, сегодня в БСДГ больше пенсионеров, чем молодежи…**

– Вместе со мной в партию уже пришли молодые лидеры. И будут приходить. Но и более старшее поколение обязательно должно участвовать в формировании партии. Опыт и молодость – очень хорошее сочетание. Проблема многих организаций с высоковозрастным коллективом – высокомерие и непонимание. В нашем коллективе таких проблем не будет.

**– Сколько в БСДГ сегодня человек?**

– Порядка 3000.

(*Это по старому-старому списку или в реальности – я не стала выяснять, время все высветит.* – **Авт.**)

**– Зарегистрированные офисы в регионах есть?**

– Конечно. Но по некоторым представительствам сейчас проводим перерегистрацию юридических адресов.

**– Вы уверенно говорите о том, что БСДГ останется оппозиционной партией. А можете расшифровать, что это значит в вашем понимании?**

– Наша партия имеет свою точку зрения по текущим вопросам, и мы готовы ее отстаивать на всех уровнях власти. БСДГ будет бороться за доминирующее положение в политическом поле.

**– Оппозиционеры бывают разными. Есть, например, Николай Статкевич и Анна Канопацкая. Вам чья позиция ближе?**

– Любая здравая позиция достойна уважения. Мне ближе своя позиция.

**– Есть политик, на которого вам хотелось бы быть похожим?**

– Конкретной персоны нет, но образ есть. Надеюсь ему соответствовать и вам понравиться.

**– Вы уже успели познакомиться с лидерами других оппозиционных партий? Вам с ними по пути? Например, известно, что правоцентристская коалиция намерена выдвинуть единого кандидата на президентских выборах…**

– Пока я занимаюсь внутренними вопросами нашей партии и не готов ответить на вопрос, с кем мне по пути. Не привык принимать скоропалительные, необдуманные решения. БСДГ – партия для людей. Уверен, мы будем общаться с представителями других партий, дискутировать, а возможно, и совместно реализовывать какие-то проекты.




**– Вы сами планируете участвовать в президентских или парламентских выборах? И если да, то с чем пойдете?**

– Участвовать будем. Но программа будет позже.

**– Вам часто ставят в упрек членство в коммунистической партии… Расскажите, как у вас произошла эволюция политических взглядов?**

– На самом деле все просто. Я не люблю стоять на месте. Хочется все время расти, двигаться в ногу со временем и прогрессом. Партия должна работать и вызывать интерес людей. В БСДГ, как мне показалось, есть для этого огромный потенциал.

**– Среди коммунистов у вас осталось много надежных друзей?**

– У меня вообще мало друзей. Но много товарищей и знакомых.

**– В Беларуси несколько зарегистрированных социал-демократических партий. Отдельные политики высказывали мысль их объединить. Как вы на это смотрите?**

– Приверженность к одному политическому движению не показатель идентичности. Слишком разные структуры и люди. Хотя принцип усиления направления путем слияния или поглощения – абсолютно рабочий, и его нельзя исключать.

**– Если не секрет, каким бизнесом вы занимаетесь?**

– Я практически все направления бизнеса опробовал в своей работе. Сейчас это диверсифицированные направления, которые не имеют отношения к политике.

**– Одни считают, что политика – это бизнес, а другие – что бизнес и политика несовместимые вещи… Вам какая точка зрения ближе?**

– Бизнес представляет собой определенную экосистему, которую ты можешь контролировать и оценивать. Хотелось бы, чтобы так было и в политике. Проблема некоторых наших политиков и чиновников в том, что они смотрят на мир через призму теоретиков и не понимают реальной картины.

**– В свое время Лукашенко предостерегал бизнесменов от участия в политике… Вам не страшно?**

– Откровенно говоря, некоторое чувство дискомфорта присутствует. Но работать это мне не мешает. Думаю, я адекватно воспринимаю ситуацию.

**– Вы хотели стать депутатом горсовета. Районная избирательная комиссия отказала вам в регистрации, сославшись на то, что 32,1 процента подписей за ваше выдвижение оказались недействительными. Можете объяснить, как так получилось?**

– Я уверен в людях, которые собирали подписи, и в правильности заполнения подписных листов. Я знаком с правилами проведения почерковедческой экспертизы и с методами работы избиркома. Пусть это останется на их совести. Я не злопамятный, но записываю…

**– Вы много времени проводите с семьей на море. Испания, Греция, Мальдивы, Италия, Доминикана… Не хотелось купить дом на берегу океана и остаться там жить? Некоторые очень успешные белорусские бизнесмены обосновались на Кипре и ничуть не жалеют о своем выборе. Там, кстати, тоже можно заниматься политикой…**

– Мой дом здесь. А отдыхать нужно, но только для того, чтобы потом еще лучше работать.

**– Если не секрет, чем занимается ваша супруга?**

– Моя супруга – мама моей дочки, а это самая ответственная профессия. К сожалению, у меня не всегда получается уделять слишком много внимания ребенку, но я точно знаю, что дочь не испытывает недостатка в любви и внимании.

**– Сколько лет дочке?**

– Скоро 4 года.

**– Правда, что вы не владеете белорусским языком?**

– Я его хорошо понимаю, но при разговоре употребляю много русских слов.

**– Как относитесь к смертной казни?**

– Считаю, что наказание должно быть соразмерно преступлению. Были случаи, когда после исполнения приговоров возникали вопросы к работе следствия и доказательной базе. Поэтому я выступаю как минимум за введение моратория на смертную казнь.

**– На ваш взгляд, можно ли прожить на зарплату в 500 долларов?**

– Можно. Помню времена, когда почти вся страна жила на зарплату в 30 долларов. Я тогда был счастливым ребенком, а вот как ощущали себя мои родители – не знаю. Уверен, что им было очень сложно. Но при этом не могу сказать, что мои студенческие годы, когда я жил на 100 долларов, были угрюмы. Все познается в сравнении. Скажу одно: мы должны стремиться к большему, и правительство должно нам в этом помогать, формируя условия для самореализации. Надеюсь, мы когда-нибудь к этому придем.

**– Вы верите в Бога?**

– Я верю в то, что вера делает нас лучше.

**– На какой машине вы сейчас ездите?**

– Мой последний автомобиль Lexus LS600.

**– У вас есть дача?**

– Нет.

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

## Станислав ШУШКЕВИЧ:

# «Я рад, что с моих плеч упал этот груз…»

*Бывший глава партии «Белорусская социал-демократическая Громада» Станислав Шушкевич верит, что у его сменщика все получится.*

– Я остался в партии, вошел в центральный совет, но сейчас не занимаюсь производственно-хозяйственными делами, – *рассказал Станислав Шушкевич «Народной Воле»*. – Молодые люди с этим справляются лучше. Я рад, что с моих плеч упал этот груз.

**– Говорят, что вы продали партию…**

– Кому я уже только не продавался, и в каких смертных грехах меня не обвиняли!

**– Может, эти разговоры связаны с коммунистическим прошлым вашего преемника?**

– Я ведь тоже был членом провластной коммунистической партии – КПСС…

У нашей партии есть программа, устав, и людям с коммунистическими взглядами с нами не совсем по пути.

**– Не боитесь, что партия под руководством Сергея Череченя может стать провластной?**

– Любая гадость не исключена, конечно… Но я взвешивал все за и против…

Мне кажется, Сергей способен сохранить партию. Он доказал это своей предыдущей деятельностью в БСДГ. Он умеет работать и зарабатывать деньги. Но каким именно бизнесом он занимается – честно скажу, я не знаю, просто некрасиво с моей стороны было этим интересоваться…

Как мне кажется, единственная беда Сергея и тех, кто пришел вместе с ним, – это то, что ребята не самым лучшим образом владеют белорусским языком. И стесняются говорить по-белорусски. Но мы постараемся их от этого отучить.

**Марина КОКТЫШ.**

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

# Сёння – адкрыццё помніка на магіле Ніла Гілевіча

*23 лістапада ў 13.00 на Кальварыйскіх могілках у Мінску адбудзецца адкрыццё помніка на магіле народнага паэта Беларусі Ніла Сымонавіча Гілевіча (30.09.1931 – 29.03.2016).*

Скульптар манумента – Ігар Засімовіч.

ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў" запрашае блізкіх, сяброў, калег і прыхільнікаў творчасці прыйсці і ўшанаваць памяць Паэта.

ДАТА

# У Слуцку адбудзецца ўшанаванне памяці ўдзельнікаў Слуцкага паўстання 1920 года

*Райвыканкам у сувязі з гістарычнай падзеяй дазволіў правядзенне 24 лістапада дэманстрацыі і мітынгу.*

Збор удзельнікаў дэманстрацыі пачынаецца ў 11 гадзін на стаянцы каля адміністрацыйнага будынка стадыёна "Гарадскі".

Пачатак дэманстрацыі – у 11.30. Мітынг пройдзе ў гарадскім парку культуры і адпачынку.

**Ларыса НАСАНОВІЧ.**

СІТУАЦЫЯ

# Трэст, які лопнуў

*Як дзяржаўнае прадпрыемства "кінула" рабочых з грашыма.*

Справа пачалася яшчэ год таму, калі брыгада страхароў пачала супрацоўнічаць з дзяржаўным прадпрыемствам «Трэст «Белтрансбуд». Трэба было правесці рамонтныя работы на даху Мінскага маторнага завода, будаўнікам агучылі памер іх будучых заробкаў – 1200–1500 рублёў у месяц.

*"Працу пачалі ў жніўні 2017 года, як кажуць, пад чэснае слова,* – распавядае адзін з рабочых **Сяргей Вячэрскі**. – *Паводле заканадаўства, працадаўца павінен быў штомесяц заключаць з намі дамовы падраду, але такога і блізка не было. У той жа час мы не маглі не верыць трэсту. Здаецца, сур'ёзная арганізацыя, гэта ж не нейкая прыватная шарашкіна кантора. Калі з'явіліся праблемы з выплатай заробкаў, нам абяцалі, што наперадзе дадатковыя работы, таму вырашацца і фінансавыя пытанні. Але чым далей, тым было горш. Працавалі да лютага гэтага года, а апошні раз атрымлівалі грошы на картку аж у кастрычніку мінулага. А затым то 50 рублёў дадуць, то 100. Апраўдваліся так: маўляў, гэта дрэнныя людзі з Маторнага завода не пераводзяць грошы трэсту за работы".*

У красавіку гэтага года цярпенне ў людзей лопнула, і яны падалі на трэст у суд Маскоўскага раёна ў надзеі знайсці там справядлівасць. Але там іх чакала другая частка спектакля тэатра абсурду.

*"Па-першае, у судзе высветлілася, што кіраўніцтва трэста нам хлусіла,* – працягвае Сяргей Генадзьевіч. – *Прадстаўнік Маторнага завода на працэсе расказаў, што іх прадпрыемства свае абавязацельствы па аплаце працы рабочых выканала ў поўным аб'ёме – пералічыла трэсту 185 тысяч рублёў. Акрамя таго, мы даведаліся, што працавалі па дамовах падраду. І калі ўбачылі гэтыя дамовы, то ў нас вочы акругліліся. Нашы подпісы былі падроблены! У актах аб выкананых работах – тое самае. А туды ўжо ўпісалі тое, што хацелі. І не пабаяліся ж прадаставіць гэтыя фальшыўкі ў суд! У дамовах падраду нават работы былі не тыя, што мы выконвалі. На судзе ўсе дваццаць рабочых заявілі, што гэта не іх подпісы. Натуральна, мы папрасілі суд, каб гэтыя дакументы былі адпраўлены на графалагічную экспертызу. Падробка дакументаў – справа сур'ёзная. Самае цікавае, што суддзя адхіліла гэтае хадайніцтва, ні на якую экспертызу дакументы не накіравалі. Уяўляеце сітуацыю?! Дваццаць чалавек заяўляюць пад прысягай, што іх подпісы падрабілі, а суддзя робіць выгляд, што нічога не адбылося. А прадстаўнікі трэста яшчэ і пасміхаліся над намі: маўляў, выкусілі?"*

Як кажуць, усё было б смешна, калі б не было так сумна. Суд прызнаў, што ААТ «Трэст «Белтрансбуд» павінен страхарам 10 тысяч рублёў на ўсю брыгаду. Гэта было амаль у восем разоў менш, чым прадпрыемства павінна было выплаціць у рэальнасці.

*"Больш за тое,* – абураецца Сяргей Вячэрскі, – *стала вядома, што некаторыя за сваю працу яшчэ засталіся і павінны трэсту. У мяне, напрыклад, запазычанасць аказалася ў памеры 980 рублёў. Вось ужо на самай справе – цуды бухгалтарскага майстэрства! Натуральна, мы абскардзілі гэтае рашэнне, і пракуратура Маскоўскага раёна стала на наш бок. Яна прызнала рашэнне раённага суда незаконным, пазней яно было адменена і накіравана на новы разгляд. І тут даведваемся, што трэст падаў у суд хадайніцтва пра тое, каб пакінуць нашы патрабаванні без разгляду ў сувязі з тым, што прадпрыемства знаходзіцца ў стадыі банкруцтва".*

Зараз рабочыя не пакідаюць надзеі атрымаць свае грошы, а юрысты сцвярджаюць, што працэдура банкруцтва не вызваляе наймальніка ад пагашэння запазычанасцяў. Але ці атрымаецца?

*"Я толькі не разумею, куды зніклі тыя грошы, якія Маторны завод пералічыў трэсту на заробкі для нас?* – задаецца пытаннем мой суразмоўца. – *Скралі? Выплацілі "мёртвым душам"? Мяркую, што гэтымі пытаннямі павінны былі б зацікавіцца нашы праваахоўныя і кантралюючыя органы. І як наогул магла здарыцца такая сітуацыя ў нашай краіне, калі дзяржаўнае прадпрыемства адкрыта "кідае" сваіх рабочых? Вельмі брыдка на душы ад усёй гэтай гісторыі…"*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**




Рабочыя не пакідаюць надзеі атрымаць свае грошы.

МНЕНИЕ ПРОСТОГО ЧЕЛОВЕКА

# Не ждите, когда последний вкладчик уйдет в мир иной

Часто можно услышать такую пословицу: скажи сто раз человеку «свинья», на сто первый он захрюкает. Видимо, наши государственные СМИ, руководствуясь этим, изо дня в день внушают нам, как хорошо мы живем. Главный их слоган: Беларусь – страна для жизни, молодым везде у нас дорога, старикам везде у нас почет. При этом забывают другую народную поговорку: соловья баснями не кормят.

Все в этом мире относительно и познается в сравнении. А сравнения часто говорят об обратном, и свидетельством этому являются наши мизерные зарплаты и пенсии, ВВП на душу населения, наше ЖКХ и многое другое.

Госидеологи сутками талдычат о социальной справедливости. А что в реальности? Взять, к примеру, то же жилищно-коммунальное хозяйство. Недавно я обратился в ЖЭУ №3 Октябрьского района Минска с просьбой отремонтировать ступеньки перед подъездами дома №46 по улице Ландера, которые пришли в негодность. Мне ответили, что нет денег, что у них еще не выплачена зарплата за август. Вопрос: куда же уходят наши деньги в виде платы за квадратные метры квартир? Речь идет о немаленьких суммах…

Мне кажется, что виной всему является то, что наши деньги идут в общий котел и никто не советуется с нами, как они должны расходоваться. В результате многие дома ждут ремонта по пятьдесят и более лет, невзирая на то, что их жильцы платят исправно за так называемые услуги!

Вот вам и справедливость!

Или такой пример. Сколько говорено-переговорено о возврате людям банковских вкладов, которые пропали в девяностые годы! Президент неоднократно давал поручения правительству изыскать возможности и вернуть населению сбережения. Какие-то потуги в банках по компенсации вкладов делались, однако иначе как издевательскими их не назовешь. За семь тысяч советских рублей (на то время стоимость хорошего автомобиля) мне предложили семь тысяч белорусских «зайчиков» (стоимость пластмассового тазика для мытья посуды).

Как поступит нынешнее правительство во главе с опытнейшим финансистом Сергеем Румасом, покажет ближайшее время. Хотелось бы дожить до того дня, когда справедливость восторжествует и народу на законных основаниях, и в первую очередь людям старшего поколения, будут возвращены их сбережения в полном объеме, не выжидая, пока последний вкладчик уйдет в мир иной.

Конечно же, последнее слово за главой государства А.Г.Лукашенко, и до ухода на заслуженный отдых он все же должен сдержать данное когда-то народу слово по возврату сбережений.

**Василий Семенович БОЛДЫШЕВ, пенсионер.**

*Минск.*

РЕЗОНАНС

# Эта система должна быть выжжена огнеметом

В «Народной Воле» за 13 ноября прочитал письмо жителя Пинска Петра Хлуса о его конфликте с коммунальщиками. Беспардонность и наглость разных структур ЖКХ в обворовывании людей растут из года в год и приближаются к тому, что делается в России. Там настолько открыто поднимают тарифы и выкачивают деньги из населения, что уму непостижимо! Я поездил по России, посмотрел. Людей обдирают, а потом строят себе дворцы, гостиницы и дома отдыха, как в Куршавеле. Перед последними «перевыборами» Путина даже кремлевским чиновникам стало понятно, что проблемы, которые порождает ЖКХ, взорвут население. Тогда в Госдуму срочно внесли законопроект о переходе на прямые отношения между поставщиками услуг и населением. А в цивилизованном мире – Польше, Литве – это уже давно поняли. Там ЖЭСы уже давно стали ненужными. Коммунальные услуги населению предоставляют частные компании. Литовские компании уже работают не только у себя в стране, но дошли и до России, и до Украины, и даже до Казахстана.

А Беларусь так и остается заповедником «коммунальной мафии», этого прибежища вчерашних двоечников. ЖКХ уже заложило под государство мину замедленного действия. В коммунальных службах творится неописуемое, для всех очевидно эксплуататорское присвоение доходов трудящихся. Эта система должна быть, образно говоря, выжжена огнеметом.

**Александр ИЛЛАРИОНОВ, житель Бреста.**

ИЗ ПИСЬМА

# С какой стороны нужно говорить о справедливости…

На встрече с активистами БРСМ А.Г.Лукашенко много говорил о справедливости. Мол, наши люди никогда не потерпят несправедливости.

Я подумал: а какой народ любит несправедливость? Все знают, как активно выступают за справедливость, за уважение к себе и поляки, и украинцы, и французы, и литовцы, и многие другие народы. И то, что белорусы требуют справедливости, – это правда. Тут наш руководитель прав. Но почему у нас столько несправедливости? И почему власти запрещают нашим людям отстаивать свои права, свое благополучие?

Очень многие люди возмущаются низкой зарплатой и мизерными пенсиями, но как только дело доходит до протестных акций, они пресекаются на корню. Вот и вынуждены тысячи граждан уезжать на работу за границу.

Не с этой ли стороны нужно говорить о справедливости?

**Е.Г.МИРОНОВИЧ, ветеран, бывший учитель.**

**Минск.**

З НАШАЙ ГІСТОРЫІ

# …Гэта будзе «сіметрычны адказ» гарадавому

Пасада гарадавога была ніжэйшай у паліцэйскай іерархіі Расійскай імперыі. У Мінску ў абавязкі гарадавога ўваходзіла пільнае назіранне за кабетамі. Калі яны выходзілі на вуліцу ў жалобным строі, гарадавы былі абавязаны іх весці да ўчастка. Калі дазволу на нашэнне чорнага колеру не аказвалася, то з кабет спаганяўся штраф, а найбольш неўтаймаваныя аказваліся за кратамі.



Так было ў 1863 годзе. У той год мінскім гарадавым давялося шмат «папрацаваць». Амаль у кожным доме некага аплаквалі, колер жалобы не знікаў, а спакутаваныя горам жанчыны прынцыпова не мянялі ўбораў. Адна з іх, каб не прад'яўляць пастаянна паліцэйскім служкам адпаведны дазвол, прышпіліла паперку з пячаткай ззаду на сукенку. Так і хадзіла.

Зрэшты, чорнымі былі і твары мінчукоў. Да дома губернатара пастаянна прыбывалі этапы арыштаваных паўстанцаў, і месцічы з болем у сэрцы прыходзілі сюды: раптам мільгане знаёмы твар. Ці назіралі за ледзь жывымі інсургентамі з-за плячэй гарадавых і расійскіх вайскоўцаў.

Было клопату і ў той майскі дзень 1863 года, калі не толькі на гарадавых, але і на ўсё мінскае паліцэйскае начальства быў ускладзены абавязак забеспячэння грамадскага парадку ў час расстрэлу Міхала Цюндзявіцкага.

Міхал быў з шляхецкай сям'і на Барысаўшчыне, служыў у расійскім войску афіцэрам-артылерыстам. У гэты неспакойны час ён вырашыў зазірнуць да дому, па дарозе зайшоў у карчму. За яе дзвярамі поп п'янстваваў з халопамі. На моцным падпітку ён тлумачыў вяскоўцам, што паны паднялі зброю, каб, як і раней, прадаваць сялян і захаваць прыгон. Паколькі гутарка вялася гучна і міжволі закранала астатніх прысутных, Міхал запярэчыў папу і сказаў, што яго словы – поўная бздура. У 1831 годзе панове таксама біліся з маскалямі, хаця прыгон тады ніхто не адмяняў. Святар закруціўся, як шалёны. «Чуеце, чуеце, зневажае цара, заклікае да бунту! Засведчыце гэта!» – завішчаў ён сабутэльнікам, а неўзабаве нашрайбаў і скаргу на афіцэра-«паляка». Па гэтым даносе Цюндзявіцкі быў арыштаваны. Між тым у карчме сядзелі і іншыя прысутны. Ужо ў зняволенні Міхал звярнуўся да іх за падтрымкай. Нягледзячы на тое, што тры селяніны і яўрэй сталі на яго бок, сведчанні іх не былі прынятыя. Да таго ж пры вобшуку ў Міхала знайшлі фотаздымак, дзе ён сядзеў у крэсле з выявамі гербаў Польшчы і ВКЛ – Арла і Пагоні. Меркавалі, што адмераюць яму нямала. Сам Цюндзявіцкі чакаў канчатковага выраку ў Мінску якраз непадалёк ад таго месца, дзе сёння стаіць статуя гарадавога. Але ніхто не думаў тады, што за здымак і адстойванне праўды ў карчме Цюндзявіцкі заплаціць жыццём! Мураўёў падпісаў яму расстрэл! Першы расстрэл на новай пасадзе.

Пагодлівым майскім ранкам у Пішчалаўскую вязніцу быў выкліканы ксёндз Валіцкі, якому выпала спавядаць гэту маладую ахвяру. Цюндзявіцкі спавядаўся са спакойнай пакорай, прыняў святы сакрамент і апошняе намашчанне. Паміж 8 і 9 гадзінамі раніцы яго прывялі з вязніцы на плац паміж Ігуменскім і Койданаўскім трактамі. Ён выслухаў прысуд надзіва годна, са спакоем, які захаваў да апошняй хвіліны. Ішоў на смерць вельмі бледны, здавалася, што твар яго высечаны з мармуру. Ішоў упэўненым крокам, раз-пораз кідаючы сумны позірк на блакітнае неба і пульсуючы жыццём майскі свет, з якім яму належала развітацца.

Натоўп людзей, які атачаў плац экзекуцыі, хваляваўся, быццам калоссе, ахопленае віхурай. Час ад часу ад гэтага сходу далятаў то прыглушаны стогн, то раптам нейкі крык, які праразаў паветра і патанаў у гуле барабанаў і людскім гомане.

Калі Цюндзявіцкі наблізіўся да слупа, у аддаленні надзвычай жаласліва закукавала зязюля. Галава асуджанага сумна павярнулася ў той бок.

Калі стаў на месца, выпрастаўся, кінуў галавой у бок натоўпу, пачаў нешта гаварыць, але яго голас заглушалі барабаны. Ксёндз, які быў яго асістэнтам, бледны больш, чым сам асуджаны, усклаў над ім крыж і адышоў у бок.

Кулі свіснулі – акрываўлены Цюндзявіцкі асунуўся на зямлю.

З тысяч грудзей вырваўся рэзкі крык. Хваля закалыхалася і наперла на салдат, набліжаючыся да лобнага месца. Некалькі кабет, карыстаючыся беспарадкам, падскочылі да слупа, пачалі хуценька збіраць пясок, набрыняла крывёй няшчаснага, збіраць хустачкамі распырсканыя крывавыя кроплі.

Ля магілы расстралянага на месцы пакарання адразу ж выставілі варту, але кожны дзень, звычайна вечарам, каля яе збіраўся шматлюдны натоўп гараджан і абсыпаў магілу кветкамі. І хаця варта не дазваляла нікому набліжацца да магілы, але хутка на ёй вырасла нешта накшталт насыпу з зеляніны і кветак. Грамадства аддавала даніну павагі ахвяры сваёй ідэі.

Паважаная сям'я Цюндзявіцкіх і параднёныя з ёй дамы атрымалі вялікі ўдар. Малады афіцэр пакінуў нарачоную, якая не магла супакоіцца ў жалобе. Доўгі час па Мінску хадзілі паэтычныя творы і вершы, складзеныя ў гонар маладога пакутніка.

Расстралянаму было 27 гадоў.

Вядомы нястомны даследчык беларускай мінуўшчыны прафесар Адам Восіпавіч Мальдзіс каля паўтара дзясятка гадоў таму прапаноўваў узвесці помнік Міхалу Цюндзявіцкаму. Калі б тое было ажыццёўлена, то, магчыма, у гарадскім асяроддзі не з'явілася б статуя гарадавога, якую б'юць па твары. Манументальная прапаганда павінна аб'ядноўваць. Я падтрымліваю прапанову Адама Мальдзіса і заклікаю Мінгарвыканкам ушанаваць памяць Міхала Цюндзявіцкага помнікам. Гэта будзе «сіметрычны адказ» гарадавому. Заўважу пры гэтым, што я супраць хуліганства ва ўсіх яго праявах. У тым ліку і ў адносінах да ўсталяваных у горадзе скульптурных вобразаў.

**Віктар ХУРСІК, прыватны выдавец.**

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Той, хто злосны і здаровы, хай паколе ў маці дровы

У Магілёве мужчына і жанчына нанадпітку пасварыліся на вуліцы. Каб не біць сяброўку, мужчына вырашыў спагнаць злосць на чужым доме – разбіў у ім вокны.

Жыццё сямейнае не ў глянцы,
І прыкладаў нямала ёсць,
Калі на жонцы ці каханцы
Мужчына спаганяе злосць.
Багата спосабаў для кары:
І грозны рык, і кухталі…
Раздрай узнік і ў гэтай пары.
Калі па вуліцы ішлі,
Дык папракнула маладзіца,
Пасмела распусціць язык:
– Няма й рубля, каб пахмяліцца!
Спярша маўчаў, трываў мужык,
А потым у яго ад злосці
Аж памутнела ў галаве.
Здавалася, патрушчыць косці
І на шматкі яе парве.
Але ўстрымаўся ад удару
І ёй не ўрэзаў ад душы.
А выпусціць, як кажуць, пару
Крыху па-іншаму рашыў,
Хоць быў ён дужа нецвярозым.
Ляжалі збоку камяні.
Дык даў падказку злосны розум:
«Ты іх у шыбіны шпурні!»
Ляціць каменне, як снарады,
Звініць у вокнах дома шкло…
А маладзіца вельмі рада,
Што не балюча ёй было.
Яго чакае штраф, вядома,
Ён не патрапіць у турму.
А мне шкада, што каля дома
Не падказаў ніхто яму:
Калі ты гэтакі здаровы
І злосць імкнецца цераз край,
Лепш пакалі ў матулі дровы,
Касой на лузе памахай.

* * *

У нас бывае многа сварак…
І калі кожны злы мужык
Замест таго, каб даць у карак,
Пачне лупіць па вокнах, дык
Нам не пазбегнуць іншай драмы,
І нават шок адчуем мы,
Бо з вокнамі, дзе толькі рамы,
Стаяцьмуць спрэс усе дамы.

## Каб зарабіць на хлеб рубель, ідуць студэнткі на панэль

Міністэрства ўнутраных спраў паведаміла, што набыла размах «студэнцкая прастытуцыя». Амаль кожная шостая «жрыца кахання» вучыцца ў ВНУ.

Растуць, як восенню грыбы,
На нашых вуліцах путаны.
Яны цяпер на густ любы,
Хоць прэйскурант у іх нятанны.
Знайсці амаль што задарма
Шалаву можна ля вакзала,
Як палюбоўніцы няма,
А грошай маеш вельмі мала.
Але, зрабіўшы крок такі,
Ільга наблізіцца да краю,
І я вам, хлопцы й дзецюкі,
Такога выбару не раю.
Лепш сэканоміць на ядзе,
Тым больш на піве ці «чарніле»,
Каб не адчуць сябе ў бядзе
І волю даць «мужчынскай сіле».
Займеўшы, так сказаць, рубель,
Спатоліш жарсці без пакуты:
Студэнткі выйшлі на панэль –
Іх пастаўляюць інстытуты.
(Яны й мінулаю парой
«Дарылі» секс народным масам,
Але найболей шчыльным строй
На вулках стаў апошнім часам.)
Студэнткі ходзяць раніцой
На лекцыі, на семінары
(І дрэмлюць там, само сабой),
А ноччу дэманструюць «чары»…
Студэнтка – то не бервяно,
Здавольвае любыя крозы,
Бо ўжо засвоіла даўно
І эратычнае кіно,
І Камасутры слынна й позы.
Калі ж кліент, як кажуць, здох
І ўжо не здатны на забавы,
Дык са студэнткай дыялог
Заўжды карысны і цікавы.
Яна раскажа пра Гюго,
Пра тэатральныя прэм'еры…
Бо досвед гэткі – што ого!
І інтэлекту да халеры.
Ну, адным словам, хоць куды
У нас цяпер «кахання жрыцы».
У іх разумныя глузды!
Ці варта гэтым ганарыцца?

* * *

Калі б усе студэнткі ў нас
Стыпендыі паболей мелі,
Яны, магчыма, ў вольны час
Не зараблялі б на панэлі…



БЕЗ МІФАЎ

# Каб не застацца ў палоне хлусні

На працягу апошняга года «Народная Воля» апублікавала шэраг маіх матэрыялаў, прысвечаных гісторыі ўзнікнення першай дзяржавы, у назве якой з'явілася слова «Беларуская». За гэты год выйшла некалькі новых прац, прысвечаных гісторыі Беларускай Народнай Рэспублікі, сярод якіх самымі значнымі сталі калектыўныя манаграфіі гісторыкаў – як акадэмічных («Беларуская Народная Рэспубліка – крок да незалежнасці» аўтарства Вячаслава Даніловіча, Аляксандра Кавалені, Валянціна Мазца і Сяргея Траццяка), так і незалежных («Шляхамі БНР», складзеная з матэрыялаў Аляксандра Агеева, Ігара Пушкіна, Ірыны Лаўроўскай, Захара Шыбекі і інш.), а таксама аўтарскіх кніг Сяргея Шупы («Падарожжа ў БНР»), Андрэя Чарнякевіча («БНР. Триумф побежденных»). Выдаўцы часопіса ARCHE паклапаціліся пра тое, каб сабраць багаты ілюстрацыйны матэрыял да гісторыі БНР, апублікаваны ў каляровым альбоме «Гісторыя БНР у карцінках»…

На жаль, усё гэта істотным чынам так і не змяніла паводзін сучасных беларускіх улад, якія ў пытанні гісторыі БНР па-ранейшаму хаваюць галаву ў пясок. Замест таго каб прызнаць даўно відавочныя рэчы, яны чарговы раз спрабуюць супрацьпаставіць першай дзяржаве з назвай «Беларуская» ўтварэнне, прыдуманае бальшавікамі ў самым канцы 1918 года.

Гісторыю рэальнага стварэння БССР (а маецца на ўвазе яна) добра ілюструе выказванне спецыяльнага прадстаўніка бальшавіцкай партыі ў Беларусі Абрама Іофе ў канцы таго самага года:

*«Чтобы не повторять ошибок, когда нам непосредственно приходилось вести борьбу с германским империализмом, мы в ЦК решили Советскую Россию отделить буферами от Европы. Но чтобы это не был буфер, который отделяет нас. Он должен сдерживать империалистический натиск, который будет – чтобы этот натиск находил барьер и ослаблял бы свою силу»* (Куличенко М. Борьба Коммунистической партии за решение национального вопроса в 1918–1920 годах. Харьков, 1963. С.54).

Менавіта як буфер разглядалі Беларусь у той час маскоўскія бальшавікі (колькі-небудзь сур'ёзных бальшавіцкіх суполак тады ў нашай краіне папросту не існавала). Аднак стварэнне і існаванне БССР, бясспрэчна, мае і пазітыўнае гістарычнае значэнне: хочучы ці не хочучы, Масква мусіла вызначыць межы (напачатку абсалютна несправядлівыя) прыдуманага імі ўтварэння. А гэта ўжо ў новую эпоху стварыла магчымасць для таго, каб было пастаўлена пытанне аб аднаўленні рэальнай незалежнасці беларускай нацыянальнай дзяржавы.

Сёння платныя ідэолагі і праўладныя спецпрапагандысты спрабуюць перакруціць гісторыю гэтага працэсу. У прэзідэнцкай газеце дагаварыліся да таго, што стварэнне незалежнай Рэспублікі Беларусь сталі прыпісваць галоўнаму свайму спонсару, які сам яшчэ не так даўно не стамляўся публічна заяўляць, нібыта ён быў «адзіным дэпутатам Вярхоўнага Савета 12-га склікання», які галасаваў супраць тых пагадненняў, што зафіксавалі рэальны распад савецкай імперыі.

Я таксама быў дэпутатам таго самага Вярхоўнага Савета, і да канца свайго жыцця буду ганарыцца тым, як я галасаваў на парламенцкай сесіі 10 снежня 1991 года – калі былі ратыфікаваны падпісаныя ў беларускіх Віскулях пагадненні паўнамоцных прадстаўнікоў Расійскай Федэрацыі, Украіны і Беларусі і калі быў дэнансаваны так званы «Саюзны дагавор» 1922 года.

У той час ніводнаму, нават вельмі хвораму чалавеку не прыходзіла ў галаву адмаўляць той факт, што вырашальную ролю ў аднаўленні беларускай дзяржаўнасці адыграў Беларускі Народны Фронт «Адраджэнне», пра самы пачатак існавання якога я расказаў чытачам «Народнай Волі» некалькі нумароў таму ў нататцы «100 і 30».

Свой новы цыкл публікацый пад назвай «Без міфаў» я і распачну апісаннем акалічнасцяў, якія тады прывялі мяне самога ў Народны Фронт, каб пазней абсалютна свядома падтрымаць ідэю адраджэння незалежнасці роднай мне краіны.

Я ніколі не быў членам камуністычнай партыі і, адпаведна, пасля таго як скончыўся мой камсамольскі ўзрост, ніякім чынам не планаваў свайго ўдзелу ў «вялікай» палітыцы. Мяне яшчэ раней цікавілі іншыя справы – філалогія, гісторыя, а таксама літаратура. Менавіта гэтыя абставіны, калі я працаваў у родным Полацку, прывялі мяне на пачатку васьмідзясятых гадоў, адразу пасля смерці генсека Брэжнева, ў кола мясцовых літаратараў, у літаратурную суполку «Крыніцы». Суполка гэтая існавала пры наваполацкай гарадской газеце «Химик», і ў той час яе ўзначальваў Уладзімір Арлоў. Менавіта ён, а таксама іншыя таленавітыя творцы (Сяржук Сокалаў-Воюш, Вінцэсь Мудроў, Якуб Лапатка ды іншыя) і стварылі падмурак народнафронтаўскай дзейнасці на старадаўняй Полацкай зямлі ў канцы 1980-х гадоў. Крытычнае мысленне, якое сфарміравалася ўва мне, у тым ліку пад іх уплывам, не пакідала іншага выбару. Калі я даведаўся ад Арлова і Сокалава-Воюша пра акалічнасці стварэння аргкамітэта Беларускага Народнага Фронту ў кастрычніку 1988 года, першай справай, якой я заняўся, стала арганізацыя першай групы падтрымкі БНФ на месцы маёй тагачаснай працы, у Наваполацкім політэхнічным інстытуце (цяпер гэта Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт). Да суполкі адразу далучыліся некалькі дацэнтаў, кандыдатаў навук, проста выкладчыкаў, прыйшлі ў яе і некаторыя студэнты. Немалаважным чыннікам іх свядомага выбару шмат для каго стаў той факт, што адным з заснавальнікаў БНФ быў наш знакаміты зямляк Васіль Быкаў…

Неўзабаве паўстала і Полацкая рада Беларускага Народнага Фронту на чале з інжынерам аднаго з наваполацкіх прадпрыемстваў Анатолем Кулікам.

Наваполацк і Полацк на той час уваходзілі ў лік гарадоў, найбольш забруджаных выкідамі ад шкоднай вытворчасці не толькі ў Беларусі, але і ва ўсім СССР. З сярэдзіны васьмідзясятых там існаваў арганізаваны экалагічны рух, які здолеў (пры падтрымцы тых жа літаратараў з «Крыніц») у кастрычніку 1987 года зладзіць на плошчы Будаўнікоў у Наваполацку самы масавы на той час некамуністычны мітынг. Запрошаны на мітынг першы сакратар Віцебскага абкама КПБ Уладзімір Грыгор'еў выступіў там досыць няўдала і быў, па сутнасці, сагнаны абуранымі мітынгоўцамі з подыума.

Напалоханае кіраўніцтва ЦК КПБ адрэагавала аператыўна: горад Наваполацк атрымаў новыя магчымасці ў паляпшэнні экалагічнай сітуацыі і быў пераведзены ў больш высокую катэгорыю забеспячэння харчовымі і прамысловымі таварамі. Актывісты экалагічнага руху шукалі апірышча для сваёй далейшай дзейнасці, і некаторыя з іх актыўна далучыліся да стварэння першых груп падтрымкі Народнага Фронту па месцах сваёй асноўнай працы. Менавіта аб'яднанне намаганняў «лірыкаў» (літаратары з «Крыніцаў», першыя беларускія рок-гурты) і «фізікаў» (экалагічны рух) стварыла падмурак поспеху кандыдатаў, падтрыманых Народным Фронтам, на будучых выбарах у беларускі Вярхоўны Савет…

**Лявон БАРШЧЭЎСКІ.**

МУЖЧЫНЫ ПРА ЖАНЧЫН

*Дырэктар Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь магістр культуралогіі Павел Сапоцька лічыць, што жанчыны – гэта феномен, які немагчыма цалкам апісаць. Доўгі час ён думаў, што закахаўся з першага погляду. Аднак раптам высветлілася, што гэты шлюб быў наканаваны лёсам: будучая жонка вызначыла яго як суджанага яшчэ ў 4-гадовым узросце…*



# Павел Сапоцька: «Каханне – гэта непрадказальна»

**– Вы верыце, што існуе каханне з першага погляду?**

– Вядома! Гэта пра мяне. Памятаю, у той дзень я быў вельмі паглыблены ў рабочы працэс – вырашалася складаная праблема, я быў у стане поўнага цэйтноту. Прыйшоў да калегі ў бізнес-цэнтр, і там была дзяўчына, нядаўна прынятая на пасаду спецыяліста па турызме і развіцці. Я проста паглядзеў на яе і тут жа зразумеў, што вось яна будзе маёй жонкай.

**– Усе мараць пра сапраўдныя пачуцці, а як, дзе адшукаць сваё каханне?**

– Яго не трэба шукаць. Гэта непрадказальна. Проста сітуацыя складзецца менавіта такім чынам. Таму што сустрэчу прадказвае нам лёс, пошук адбываецца без нашага ўдзелу. Мы не выбіраем, і застаецца толькі ўсё пусціць на самацёк – каханне абавязкова здарыцца. Так атрымалася ў мяне. Таму мне падаецца, што мэтанакіравана шукаць не трэба, хоць многія, напэўна, са мной не згадзяцца.

**– Як выглядае ідэальнае спатканне?**

– Я вельмі блізкі да культуры, таму мне заўсёды здавалася, што наведванне тэатраў, музеяў і мастацкіх галерэй на спатканнях – гэта якраз тое, што трэба. І мая будучая жонка падтрымлівала мяне ў гэтым.



Але лепшае наша спатканне адбылося ў Вільнюсе. Мы з Кацяй гулялі па вузенькіх старажытных вулічках, любаваліся на славутасці і цудоўныя краявіды горада. Неяк неўпрыкмет гаворка зайшла пра Маладзечна, адкуль абое родам.

*Я лічу, што мужчына павінен ствараць нейкую платформу і забяспечваць сямейны ачаг, але захоўвае яго, напэўна, жанчына.*

Аказалася, што нашы дзядулі і бабулі жывуць на адной вуліцы ў суседніх дамах. І я ўзгадаў, што ў іх двары былі адзіныя на ваколіцу арэлі, куды ўсе дзеці хадзілі гушкацца. Аднойчы мы з сябрам таксама прыйшлі да арэляў, а маленькая дзяўчынка гадоў чатырох ніяк не хацела нас пусціць на гушкалку. Пасля звычайнай дзіцячай спрэчкі арэлі нам саступілі, але дзяўчынка ад крыўды ўкусіла мяне за руку і пабегла да бабулі. Здаецца, больш яе не бачыў. Тады ў Вільнюсе высветлілася, што гэта была мая будучая жонка.

**– Хто ў сям'і павінен «ствараць надвор'е»?**

– Палітычнае пытанне. Напэўна, усё ж такі жонка. Кожны праецыруе на сваю сям'ю тую мадэль, якая была характэрна для яго бацькоў. Напрыклад, мае мама і бабуля займаліся хатнімі справамі, але ў той жа час былі кіроўцамі ў сям'і. Тое ж і ў мяне, бо мая жонка можа толькі выглядаць маленькай і безабароннай, але на самай справе гэты чалавек мае трывалы ўнутраны стрыжань і моцны характар. Я лічу, што мужчына павінен ствараць нейкую платформу і забяспечваць палівам сямейны ачаг, але захоўвае яго, напэўна, жанчына. Я кіраўнік на працы і, калі прыходжу дадому, не хачу кіраваць таксама і там.

**– Ці ёсць розніца паміж супрацоўніцтвам з мужчынамі і супрацоўніцтвам з жанчынамі?**

– Так. З жанчынамі бывае часам цяжка працаваць. Бо з мужчынамі можна пасварыцца і нават не выбіраць выразаў, але праз паўгадзіны вы ўжо ўсё вырашыце і застанецеся ў добрых стасунках. Да жанчын трэба шукаць падыход, улічваць шмат розных акалічнасцяў, і не дай Бог жанчына пакрыўдзіцца на цябе – ты пра гэта не забудзеш! Трэба ўлічваць і той момант, што мы працуем у сферы культуры, дзе ўсе людзі, незалежна ад полу, вельмі эмацыянальныя і творчыя, да кожнага трэба шукаць падыход. Але трэба адзначыць, што ў нашым музейным калектыве як мужчыны, так і жанчыны вельмі любяць сваю працу і спраўляюцца са сваімі абавязкамі без усялякіх нараканняў.

**– Калі б жанчына была мастацкім творам, то якім?**

– Гэта быў бы жывапіс. Што тычыцца накірунку, то кожнаму сваё, але мая жонка Каця – гэта абсалютны, чыстай вады рэалізм. І поўная процілегласць мне! Я – чалавек-хаос, магчыма, я постмадэрнізм. Спецыфіка маёй працы такая, што гэта вечная шокавая тэрапія, трэба прымаць важныя рашэнні, экстранна і вокамгненна рэагаваць на сітуацыю, але гэта нядрэнна. А ў жонкі ўсё дакладна, усё строга, акуратна і зладжана.

**– Што самае няпростае ў сямейным жыцці?**

– Наступаць на горла ўласнай песні. У кожнага з нас свае інтарэсы, патрэбы, жаданні, свае культурныя героі, і гэта зразумела. Мы ўсе людзі ўнікальныя, маем уласныя дзівацтвы. Таму аснова шчаслівага сямейнага жыцця – дыялог. Ёсць стэрэатып, што шчасліваму шлюбу перашкаджае побыт, але на самай справе такія праблемы можна вырашыць. Значна складаней бывае прыняць пункт гледжання на нейкую сітуацыю свайго сужэнца, калі ён вельмі разыходзіцца з тваімі ўяўленнямі.

**– Ці можна даравацьздраду?**

– Не, ніколі. Дараваць можна нервовасць, памылку, спрэчку з-за непаразумення і г.д. Але нельга дараваць здраду. Памылкі можна выправіць, праблемы перадолець, задачы вырашыць, а вось здраду як выправіць? Гэта, напэўна, самае страшнае, што можа адбыцца ў адносінах.

## ТОЛЬКІ АБ САМЫМ ВАЖНЫМ

**– Каб парадаваць мужчыну, жанчыне трэба…**

– Быць той, якая свайго каханага мужчыну разумее. І гэта вельмі важна. Напрыклад, мая жонка разумее мяне больш, чым я яе. Ёй не трэба тлумачыць, чаму я затрымаўся на працы, чаму мне трэба ехаць у выхадны дзень на дзелавую сустрэчу… А вось я бываю вельмі раўнівы. І я гэта ўсведамляю, спрабую стрымлівацца і разумею, што мне яшчэ трэба шмат працаваць над сабой.

**– Як зразумець, што яна – тая самая, на ўсё жыццё?**

– Напэўна, зразумець дапаможа час, але і гэта не паказчык. Пэўна, больш важна, што чалавек, які побач, спасціг да дробязяў твой характар, прымае твае заганы і даруе нейкія «заскокі», твае эмацыянальныя парывы. Гэта дае надзею, што чалавек побач – на ўсё жыццё.

**– Самае прывабнае ў жанчынах – гэта…**

– У маёй жонцы гэта шчырасць. Яна можа перадавацца праз усмешку ці пяшчотны позірк або іншым чынам, але яна адчуваецца, і гэта прыцягвае.

**– Самае дзіўнае ў жанчынах – гэта…**

– Непрадказальнасць. Асабліва калі гаворка ідзе пра рабочыя пытанні. А наогул, у адносінах «мужчына–жанчына» гэта нядрэнна, у гэтым нават штосьці ёсць.

**– Лепшы падарунак для жанчыны – гэта…**

– Тое, што зроблена менавіта для яе, з любоўю і ўвагай. Напрыклад, мая жонка калекцыянуе сноўболы. Куды б я ні ехаў, абавязкова імкнуся прывезці ёй шарык. Або яе любімыя прысмакі, якіх у нас не знойдзеш. Здаецца, што дробязь, але гэта больш сардэчны падарунак, чым каштоўная забаўка, і мая Каця гэта разумее.

**– Каханне – гэта калі…**

– Ёсць узаемапаразуменне, павага. Калі шчыра хочаш зрабіць чалавеку прыемнае, нягледзячы на ўласныя абставіны. Гэта дыялог і падтрымка. Часам мне здаецца, што калі б не падтрымка жонкі, заахвочванне з яе боку маіх грамадскіх цікавасцяў, у мяне ўсё было б інакш. Менш ярка і шматзначна. Ёсць такія вершы: «Каханне дорыць крылы і ў неба ўзносіць…»



**Віталіна БАНДАРОВІЧ.**
**Фота з альбома П.Сапоцькі.**

*(«Алеся».)*

З ЮБІЛЕЙНАЙ НАГОДЫ

# «Разумныя» павільёны замест звычайных кіёскаў

21 лістапада споўнілася 100 гадоў найстарэйшай сістэме па распаўсюджванні друкаваных выданняў у краіне – «Белсаюздруку». З гэтай нагоды адбылася спецыяльная прэс-канферэнцыя. Яе арганізатары перш-наперш падкрэслілі, што да свайго юбілею «Белсаюздрук» прэзентаваў шэраг новаўвядзенняў, якія пакупнікі ўжо ацэньваюць станоўча. Анлайн-перакладчыкі, выклік таксі і экстранных службаў, вымярэнне ціску…

Прадпрыемствам распрацавана канцэпцыя далейшага развіцця. Стаўка робіцца на «разумныя» павільёны, якія з часам заменяць звычайныя кіёскі. Міні-крамы самаабслугоўвання, дзе можна і кубачак гарачай кавы выпіць, і свежую прэсу пачытаць, ужо ёсць. Толькі ў Мінску такіх утульных гандлёвых пляцовак 53, усяго ў краіне – 211.

Пра плюсы замены кіёскаў на павільёны расказаў генеральны дырэктар прадпрыемства «Белсаюздрук» **Ігар Дудзіч**.

*– Да прыкладу, возьмем павільён па бульвары Трактарабудаўнікоў у Мінску, што быў нядаўна ўсталяваны замест кіёска. Продаж друкаванай прадукцыі павялічыўся на 80, кніг – на 300 працэнтаў. Адпаведна расце і заработная плата супрацоўнікаў.*

З часам у павільёнах «Белсаюздруку» можна будзе падпісацца на любое выданне, даведацца пра расклад транспарту, аплаціць камунальныя паслугі. А да Еўрапейскіх гульняў, якія пройдуць у краіне ў наступным годзе, для турыстаў з'явяцца і анлайн-перакладчыкі. З дапамогай гаджэтаў прадаўцы змогуць падтрымліваць размову з пакупнікамі з любой кропкі свету. З такіх мультыфункцыянальных комплексаў стане магчымым выклікаць таксі, заказаць трансфер у аэрапорт і многае-многае іншае.

Аднак гэта яшчэ не ўсе сюрпрызы. У «разумных» павільёнаў зменіцца воблік. Дызайн гандлёвых аб'ектаў ужо зацверджаны Міністэрствам архітэктуры і будаўніцтва. Новымі стануць таксама лагатып і назва «БелДрук», колеры ж застануцца тымі ж. Першы такі мультыфункцыянальны комплекс з'явіцца на праспекце Пераможцаў у Мінску.

А на пытанне «Народнай Волі», па якім прынцыпе раскладваюцца друкаваныя перыядычныя выданні ў кіёсках і павільёнах «Белсаюздруку», чаму часам з-за дзяржаўных СМІ, якія відавочна займаюць лепшыя пазіцыі, недзяржаўныя нават не бачны пакупніку, **Ігар Дудзіч** адказаў:

*– Сістэма выкладкі існуе, і гэта ўнутраны дакумент. Але «Народная Воля» заўсёды ў адкрытым доступе. Калі нават па нейкіх прычынах не бачна (бо чалавечы фактар ніхто не адмаўляе), то пра яе пытаюцца. І газету даюць. Справа не ў тым, дзе яна ляжыць… Калі б вы сказалі, што прыйшлі ў гандлёвы аб'ект, а там «Народнай Волі» няма, мы перагледзелі б тыражы, пераразмеркавалі іх. Але сёння спісанне паказвае, што газет у гандлёвай сетцы дастаткова.*

*Мы чакаем ад рэдакцый актыўных дзеянняў па прасоўванні іх выданняў. Давайце разам праводзіць сустрэчы з чытачамі, арганізоўваць прэзентацыі вашых сродкаў масавай інфармацыі, шукаць новыя шляхі павышэння тыражоў і продажаў. Менавіта такая актыўная пазіцыя рэдакцый будзе прыцягваць пакупнікоў.*

Сёння, калі "Белсаюздрук" адзначае сваё 100-годдзе, некарэктна ўступаць са спадаром Дудзічам у палеміку. А таму пакінем яго словы на разгляд нашых чытачоў – тых, хто купляе "Народную Волю" і бачыць, як ставяцца да яе распаўсюджвання кіраўнікі "Белсаюдруку" і іх падначаленыя.

**Кацярына МЯДЗВЕДСКАЯ.**

СЛЫШАЛИ?

# Слуцкий мясокомбинат приглашает на работу…

*Правда, не всех.*

В 2019 году Слуцкий райисполком готов помочь трудоустроиться 335 гражданам.

Речь идет о тех, кто особо нуждается в социальной защите и не способен на равных условиях конкурировать на рынке труда.

Как правило, это дети-сироты, инвалиды, ветераны боевых действий на территории других государств, родители в многодетных и неполных семьях, бывшие силовики, еще некоторые категории. Также рабочие места по броне на предприятиях будут предоставлять так называемым обязанным лицам. Это те, кто должен возмещать расходы, затраченные государством на содержание их детей в детских домах, интернатах… Для обязанных лиц забронировано на разных предприятиях г.Слуцка и района 100 рабочих мест. А вот для родителей в многодетных и неполных семьях, а также воспитывающих детей-инвалидов, забронировано на будущий год лишь 91 место…

Всего нанимателям Слуцка и Слуцкого района установлена броня для приема на работу в общей сложности 335 человек. Среди предприятий, где будут забронированы места для вышеупомянутых категорий граждан, Слуцкий мясокомбинат, Слуцкий сыродельный комбинат, Слуцкий сахарорафинадный комбинат, Слуцкий хлебозавод, СУ №55 стройтреста №3 и так далее – всего 65 предприятий.

Для сравнения: в этом году подобная бронь была установлена для приема на работу 302 человек.

КРИМИНАЛ

# Обещал построить дачу…

*35 человек признаны потерпевшими*

Жителя Молодечно обвиняют в мошенничестве в особо крупном размере в сфере строительства. Прокуратура Минской области уже направила дело в отношении него в суд.

Установлено, что в 2016–2017 годах обвиняемый, являясь индивидуальным предпринимателем, а потом и директором частного унитарного предприятия, размещал в интернете объявления о том, что берется в кратчайшие сроки и по низким ценам выполнить заказ на строительство дачи, оставлял информацию о предприятии и контактные данные.

При встрече с клиентом сообщал, что имеет деловых партнеров в России, и это якобы дает ему возможность поставлять стройматериалы по низкой цене. Затем заключал с заказчиком договор строительного подряда или купли-продажи. По условиям сделки заказчик перед началом строительства должен был внести 40–50 процентов предоплаты от всей стоимости дома. Второй платеж – 30–40 процентов от стоимости дома – клиент вносил после того, как на его участок привозили часть строительных материалов и начинался монтаж строения. Чтобы получить второй платеж, обвиняемый действительно поставлял на участок заказчика какие-то строительные материалы – обычно их хватало на возведение фундамента и каркаса строения. Ну а дальше строительство замирало – подрядчик ссылался на некие трудности, разногласия с партнерами, говорил, что по этим причинам не может выполнить свои обязательства в срок.

В результате этой схемы обвиняемый, по данным следствия, обманул 35 человек и завладел их деньгами на общую сумму более 280 тысяч рублей.

Как установило следствие, директор ЧТПУП уклонялся от уплаты налогов. Не представил налоговые декларации по налогу на прибыль за 2016 год, первый и второй кварталы 2017 года. Ущерб государству составил более 32 тысяч рублей. В связи с этим фигурант дела также обвиняется в уклонении от уплаты сумм налогов, повлекшем причинение ущерба в особо крупном размере.

**Лариса НАСАНОВИЧ.**

ІНІЦЫЯТЫВА

# «Катаванне» капейкай спыніцца?

*Канцэрн "Белнафтахім" вырашыў правесці апытанне грамадскай думкі наконт павышэння коштаў на бензін.*



Канцэрн задае два пытанні: "За якое коштаўтварэнне на паліва вы выступаеце – рынačнае ці дырэктыўнае?", "Якім зменам кошту на паліва вы аддаяце перавагу: аднамомантным ці паэтапным?".

"Белнафтахім" павышае кошты на аўтамабільнае паліва амаль кожны тыдзень. Пры гэтым кожны раз кошт павышаецца толькі на 1 капейку.

Апошні раз паліва даражэла ў мінулую нядзелю. Гэта была ўжо дваццаць чацвёртая (!) змена цэн на аўтамабільнае паліва ў гэтым годзе.

З 18 лістапада кошт 1 літра бензіна АІ-92 складае 1 рубель 42 капейкі, АІ-95 – 1 рубель 51 капейку, АІ-98 – 1 рубель 72 капейкі, дызельнае паліва – 1 рубель 51 капейку.

ВОКРУГ СКАНДАЛА

Александр АЛЕСИН, военный аналитик:

# «Самый большой продавец оружия Азербайджану – Россия. Почему в таком случае Армения не возмущается?»


Летом этого года белорусские «Полонезы» были куплены Азербайджаном. Технику осмотрел Ильхам Алиев.
Фото: Пресс-служба президента Азербайджана.

После встречи 19 ноября **Александра Лукашенко** и **Ильхама Алиева** стало известно, что Беларусь поставит Азербайджану новую партию оружия и техники противовоздушной обороны. Это сразу же вызвало резкую реакцию в Армении. **Исполняющий обязанности премьер-министра страны Никол Пашинян** заявил: *«Наша позиция очень ясна: мы осуждаем такие сделки, рассматриваем эти действия как направленные против национальных интересов Республики Армения и считаем, что они искажают суть ОДКБ… Мы должны взаимно объясниться»*.

Действительно, противоречит или нет белорусско-азербайджанское сотрудничество в области поставок оружия сути Организации Договора о коллективной безопасности, в которую входят Армения, Беларусь, Казахстан, Кыргызстан, Таджикистан и Россия и провозглашаемыми целями деятельности которой являются *«укрепление мира, международной и региональной безопасности и стабильности, защита на коллективной основе независимости, территориальной целостности и суверенитета государств-членов, приоритет в достижении которых государства-члены отдают политическим средствам»*? Не поссорит ли эта сделка Беларусь и Армению?

За комментарием мы обратились к независимому военному аналитику **Александру Алесину.**

– В международном праве господствует принцип: все, что не запрещено, разрешено. Соглашение по ОДКБ предусматривает только совместную защиту от агрессии, от нападения. Если ограничения на продажу оружия никакими дополнительными документами ОДКБ не оговорены, значит, мы имеем право поставлять вооружение в сторонние организации и страны, – *поясняет эксперт.* – Азербайджан, как известно, не член ОДКБ. Беларусь, не нарушая никаких международных норм, продает оружие Азербайджану.

Но что интересно: самый большой продавец оружия Азербайджану – Россия, тоже член ОДКБ. Там суммы намного большие, озвучивалось, что Россия поставила в Азербайджан оружия на 5 миллиардов долларов. Почему в таком случае Армения не возмущается?

**– Почему?**

– Потому что Россия продает оружие и Армении, то есть обеим конфликтующим странам.

В свое время Россия выделила очень большой кредит Армении и в счет этого кредита поставила на территорию страны ракетные комплексы «Искандер», которые практически могут покрывать всю территорию Азербайджана. Баку, естественно, не мог этого стерпеть и обратился к Беларуси, Израилю. Мы поставили в Азербайджан подвижные наземные ракетные комплексы «Полонез» дальностью 300 километров, Израиль – ракетные комплексы LORA. Получается, что в зоне карабахского конфликта гонка вооружения подогревается Россией, которая, к слову, сейчас собирается продать Армении многофункциональные истребители Су-30. Эти современные боевые авиационные комплексы могут наносить удары по земле, поэтому Азербайджан в свою очередь обратился к Беларуси с предложением купить у нас зенитно-ракетную систему ПВО. 19 ноября между Министерством обороны Азербайджана и Государственным военно-промышленным комитетом Республики Беларусь был подписан меморандум о намерениях, позже будет заключен контракт.

Получается, что Армения не может кусать руку дающего, то есть Россию, поэтому все свое раздражение выплескивает на Беларусь. Это как минимум непоследовательно. Если вы такие борцы за справедливость, то почему нет претензий к России?!

**– Александр, вы сказали, что Россия зарабатывает на торговле оружием с Азербайджаном миллиарды долларов, а Беларусь?**

– Не так много. За лет 10 по выполненным контрактам Беларусь получила порядка 600 миллионов долларов. В какие-то годы было густо – мы продавали Азербайджану старую советскую технику (танки, самолеты), в какие-то – пусто. Сейчас опять появилась возможность заработать на поставках вооружения, логично этим воспользоваться. Все торгуют со всеми, и ОДКБ этого не запрещает.

**– Но не поругаемся ли мы с Арменией? Не заявит ли Ереван о приостановлении или прекращении членства в ОДКБ?**

– Думаю, до этого не дойдет. А то обострение между Беларусью и Арменией, которое мы наблюдаем, – это больше личностный конфликт. Пашинян – неопытный политик, не сдержался и высказался... Уверен, что в армянском политическом истеблишменте нет желания ссориться с Беларусью, потому что наша страна может выступить важным донором технологий и инвестиций для Армении, а также стать рынком для армянских продуктов. Думаю, Армения будет прилагать дипломатические усилия, чтобы погасить эту ситуацию.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

НОВОСТИ ГЕРМАНИИ

# Сколько стоит семейный отдых в немецких Альпах?

*В какую сумму обойдется в этом году неделя в Альпах для семьи из четырех человек? Germania.one рассмотрела вариант для семьи с двумя детьми на 7 дней в немецких или австрийских Альпах в феврале 2019 года.*

*Ни у родителей, ни у детей 5–9 лет нет лыжного снаряжения; дети будут брать уроки в лыжной школе; семья поселится в четырехзвездочном отеле неподалеку от лыжных трасс. В качестве примеров были исследованы горнолыжные курорты Заальбах, Зельден, Серфаус-Фисс-Ладис, Обертауэрн, Кляйнвальзерталь, Штубай и Зудефельд.*



***1. Проезд***

Самый дешевый способ – собственный автомобиль.

Билет на поезд стоит не менее 500 евро в зависимости от пункта назначения. Чисто теоретическая альтернатива – это самолет, но понятно, что цены на этот вид транспорта обычно выше, чем на поезд. Реальная альтернатива – автобус. Существует много специальных рейсов на горнолыжные курорты.

*Стоимость: не менее 120 евро.*

***2. Проживание***

Семь ночей либо в семейном номере, либо в двух отдельных комнатах будет стоить *от 2043 до 2898 евро* в зависимости от горнолыжного курорта. Если вместо отеля арендовать квартиру, можно сэкономить до 50%. Чем дальше от курорта находится квартира, тем дешевле.

***3. Абонемент на горнолыжный подъемник***

Шестидневный абонемент стоит *от 447 евро (Зудельфельд) до 739 евро (Зельден).*

***4. Питание***

В проживание может быть включен бесплатный завтрак. За обед и ужин придется платить из собственного кармана.

*Стоимость: около 600 евро.*

***5. Снаряжение***

Для взрослых прокат лыж обойдется *от 250 до 370 евро.* Детям снаряжение зачастую предоставляет лыжная школа. Можно сэкономить, воспользовавшись онлайн-бронированием. Чем дальше от подъемника находится пункт проката, тем дешевле обойдется снаряжение.

***6. Лыжная школа***

Групповой курс обычно дешевле, чем индивидуальные уроки. Для детей оптимальное решение – группа из 8 человек.

*Стоимость обучения колеблется от 418 до 578 евро (для двоих детей на 6 дней).*

КАНЦЭРТЫ

# Пяшчотны джаз Дароты Міськевіч

Для беларускіх меламанаў гэта стала сапраўдным падарункам – джаз у выкананні вядомай польскай вакалісткі Дароты Міськевіч. Па-першае, таму, што ён гучаў незвычайна пяшчотна дзякуючы асабліваму тэмбру голасу салісткі, за плячыма якой нямала цікавых творчых праектаў, у тым ліку і сумеснае з легендарнай «басаногай дзівай», спявачкай з выспаў Зялёнага мыса (цяперашняя Рэспубліка Кабо-Вэрдэ) Сезарыяй Эварай выкананне ў 2006 годзе песні Um Pincelada.



А па-другое, разам з Даротай на адзін дзень у Мінск прыехалі музыканты з калектыву пад назвай Atom String Quartet, які ўжо праславіўся за межамі Польшчы, і віртуозны піяніст Дамінік Ваня.

Падчас канцэрта запальная спявачка – а перад гастролямі Дарота не баіцца пісаць на сваёй старонцы ў «Фэйсбуку» фразы тыпу «Будзем запальваць!» – сапраўды змагла ўцягнуць залу ў свой творчы працэс: слухачы Беларускай дзяржаўнай філармоніі па яе камандзе не толькі падпявалі ў патрэбных месцах, але нават па-мастацку падсвіствалі. Так-так, Дарота ўмее не толькі спяваць, складаць музыку і тэксты, граць на скрыпцы, але і вытанчана свістаць.

Мінская публіка спявачцы, паводле яе ўласнага прызнання, спадабалася, хоць у нашым горадзе госця з Польшчы была ў першы раз. Арганізатарам душэўнага канцэрта стаў Польскі інстытут у Мінску, які рэалізуе ў нашай краіне культурную праграму ў рамках знамянальнай для Польшчы даты – 100-годдзя аднаўлення незалежнасці.

**Людміла СЯЛІЦКАЯ.**

НЕСТАНДАРТ



# Мару пяцікласніка здзейсніў толькі на 90-м годзе жыцця

У занадта ўжо далёкім 1940/1941 навучальным годзе я пайшоў вучыцца ў пяты клас Магільнянскай няпоўнай сярэдняй школы Вуздзенскага (так у мясцовым вымаўленні) раёна Мінскай вобласці. Адразу звярнуў увагу на прысутнасць у раскладзе заняткаў шэрагу новых прадметаў. Адным з іх была гісторыя. Выкладаў яе настаўнік па прозвішчы Гаварушка – зусім малады, невысокага росту хлопец. Яго «пяшчотнае» прозвішча выклікала ў нас вялікую спагаду да яго (у нашым мястэчку пераважалі прозвішчы на «-віч» і «-цкі»). Але любоў да прадмета была выклікана не прозвішчам, а найперш уменнем настаўніка цікава падаць вучням гістарычныя падзеі.

Пачалі мы з гісторыі Старажытнага Егіпта. Падручнікаў не было не толькі ў нас, а і ў самога настаўніка, і ён па памяці распавядаў пра гэтую дзівосную краіну. Самае важнае ён дыктаваў, а мы запісвалі, таму ўжо ў такім узросце ўмелі весці канспекты. З паперай тады было туга, мы стараліся пісаць шчыльна і дробнымі літарамі (магчыма, таму ў мяне застаўся дробны неразборлівы почырк). Я, маючы незвычайную цікавасць да гісторыі Старажытнага Егіпта, стараўся запісаць усё, што казаў настаўнік, а не толькі тое, што ён дыктаваў. *Папірус, піраміда, грабніца, калясніца, фараон* – гэтыя дагэтуль не чутыя словы сталі для нас зразумелымі і блізкімі, асабліва апошняе (мы выкарыстоўвалі яго як мянушку для сяго-таго). З той пары ў маёй душы пасялілася мара ступіць калі-небудзь на зямлю Егіпта…

У апошнія гады я як турыст наведаў Туніс, Турцыю і Албанію. І ўсплыла ў маёй памяці мара пяцікласніка. Не зважаючы на свой паважаны ўзрост, я стаў сур’ёзна рыхтавацца да яе здзяйснення.

Першымі крокамі было азнаямленне з адпаведнай літаратурай. Вельмі ўсцешаны, што вялікі ўклад у егіпталогію зрабілі і беларускія навукоўцы. Напрыклад, ураджэнец Навагрудка доктар гістарычных навук, прафесар, акадэмік Расійскай акадэміі навук Барыс Тураеў. Пасля заканчэння Віленскай гімназіі ён скончыў Пецярбургскі ўніверсітэт. Аўтар 150 навуковых прац па гісторыі краін Старажытнага Усходу, сярод якіх цэнтральнае месца займае Егіпет. Манаграфія «История Древнего Востока» (1936 г.) была адзначана вялікім медалём Рускага археалагічнага таварыства. Сярод вучняў Б.Тураева шмат вядомых усходазнаўцаў, у тым ліку і акадэмік Васіль Струвэ.

Ці акадэмік АН СССР, культуролаг і ісламазнаўца, адзін са стваральнікаў расійскай акадэмічнай школы арабістыкі Ігнат Крачкоўскі, які нарадзіўся ў Вільні, а бацька яго, этнограф, гісторык, фалькларыст Юльян Крачкоўскі, паходзіў з в.Азяты Жабінкаўскага раёна Брэсцкай вобласці.

Ёсць падставы ў беларусаў ганарыцца сваімі вучонымі землякамі, рабіць іх імёны вядомымі, вывучаць іх навуковую спадчыну!

На жаль, ураджэнцы Беларусі свае працы пісалі і выдавалі толькі на рускай мове. Кнігі нашых землякоў па Старажытным Егіпце лёгка адшукаць у рускіх аддзелах Нацыянальнай бібліятэкі Каіра, у славутай Александрыйскай бібліятэцы…

З сучасных беларускіх егіптолагаў не мае сабе роўных доктар гістарычных навук, прафесар Уладзімір Кошалеў.

Нягледзячы на тэрытарыяльную аддаленасць, вялікае адрозненне ў прыродна-геаграфічных, кліматычных умовах, у гісторыі Беларусі і Егіпта нямала падобнага. Напрыклад, трагічны лёс мовы карэннага насельніцтва. У егіпцян яна пачала адыходзіць у нябыт з VII–VIII стст., а ў беларусаў гэты працэс распачаўся з канца XVIII ст., але набыў незвычайную маштабнасць за апошнія 25 гадоў. Егіпецкую мову загналі ў магілу арабскія заваёўнікі, што навaліліся на гэтую высокацывілізаваную ў старажытнасці краіну ў VII ст. з Аравійскага паўвострава. У нас у ролі далакопа мовы выступалі царская і савецкая ўлады, а сёння – прамаскоўскай арыентацыі дзяржаўны чыноўніцкі апарат.

Здабыўшы шмат цікавых ведаў пра гісторыю Егіпта і яго цікавосткі, у жніўні гэтага года я выправіўся ў гэтую незвычайную, не падобную ні на якую іншую краіну, у горад Хургада на паўночна-заходнім беразе Чырвонага мора.

Незабыўныя ўражанні пакінула экскурсія ў Луксор, дзе знаходзяцца Карнакскі храмавы комплекс, храм царыцы Хатшэпсут, Даліна цароў, Калосы Мемнона. Паўсюль вядуцца рэстаўрацыйныя работы, большасць сродкаў на якія выдзяляе ЮНЕСКА. Бывае, адрэстаўраваныя помнікі архітэктуры і культуры, навюткія падлогі і сцены перашкаджаюць уявіць, як гэта выглядала ў сівую даўніну. А вось там, дзе засталася хоць невялічкая плямка некранутай гісторыі, з цяжкасцю адрываеш вочы ад убачанага. Самыя вялікія ўражанні і яскравыя асацыяцыі засталіся ў мяне менавіта ад развалін храмаў, да якіх яшчэ не дайшлі рукі рэстаўратараў.






З мясцовым людам часцей за ўсё даводзілася зносіцца пры дапамозе жэстаў, хаця для некаторых руская мова не такая ўжо зусім незразумелая. Разам з арабскай, англійскай, нямецкай яна выкарыстоўваецца і ў візуальным афармленні. Напрыклад, гаспадар адной крамы для яе назвы скарыстаўся толькі рускай мовай *(гл.фота)*. Не існуе ніякай праблемы для рускамоўных турыстаў, калі падчас наведвання офіса іх абслугоўваюць украінец ці наша зямлячка з Магілёўшчыны, якая перабралася ў Егіпет па ўласным жаданні. Дзе толькі не сустрэнеш сёння беларуса! Кінуць Бацькаўшчыну, падацца ў невядомую чужыну для многіх мара яшчэ са школьных гадоў. Словам, ёсць над чым задумацца і ўладам, і грамадству.

Вось так на 90-м годзе жыцця і здзейснілася мая мара, якая ўзнікла ў далёкім 1940 годзе. Вядома, не абышлося без сур’ёзных выпрабаванняў: у поўдзень тэмпература даходзіла да 45⁰! На бліжэйшы час пакуль такіх вандровак не планую, бо неяк трохі і сорамна ў такім старэчым узросце падавацца ў далёкі свет. Гэты цікавы занятак пакідаю за іншымі. Шчаслівага шляху!

**Леанід ЛЫЧ,**
**доктар гістарычных навук, прафесар.**

БИЕННАЛЕ

# Разве с банком потягаешься в размере премий?

Когда-то республиканские выставки Союза художников во Дворце искусства были очень значимыми, статусными событиями. Во-первых, это был творческий отчет членов союза, во-вторых, на них производились закупки произведений искусства. Хорошо выставиться во Дворце – это означало не только получить одобрение товарищей, но и заработать на жизнь. Как кипели чувства! Как порой бодались, конфликтовали друг с другом мастера! Сердились: «Плохо, невыгодно повесили!» Отчаивались: «Худсовет не принял работу…» Доходило чуть ли не до политического диссидентства. Которое, правда, топилось тут же в кафе Дворца искусства, которое всем тогда было по карману.

Но после перестройки, когда государство, можно сказать, перестало тратить бюджетные средства на искусство, интерес художников к общим выставкам сильно понизился – практически до нуля. И Дворец искусства, помню, захирел без внимания. Пока 12 лет назад Белорусский союз художников не напрягся и не стал организовывать биеннале – выставки-конкурсы работ с награждениями лучших. Вот и делайте выводы о роли денег в искусстве.

В этом году проводится уже VI Белорусская биеннале живописи, графики и скульптуры, и вчера во Дворце искусства состоялось ее торжественное открытие. Публики было – не протолкнуться. Хороший знак. Все, кто мог, пришли себя показать и особенно на других посмотреть, ведь на биеннале принято более 400 работ. Значит, теплится жизнь в творческих мастерских (хотя для того, чтобы снизить огромную ежемесячную коммунальную плату, почти все художники отказались от горячей воды – вот какая сейчас у них экономика).

По итогам конкурса будут выбраны победители в номинациях «Живопись года», «Скульптура года», «Графика года». Раньше в качестве бонуса (кроме премий) художникам предоставляли возможность персональных выставок в Москве или даже Варшаве. Но теперь слава лучших будет подкреплена лишь денежным вознаграждением, и то сумма премий пока точно не определена (да и сможет ли творческий союз тягаться с «Белгазпромбанком», который обычно после своих Осенних салонов раздает тысячи?). Премии, к сожалению, небольшие, хвастаться нечем, честно сказал председатель союза Григорий Ситница. Но все равно приятно, добавлю я от себя.

**Елена МОЛОЧКО.**

КАДРЫ

# У жаночай зборнай па біятлоне – гімнастка і лыжніца

*Аматары спорту з нецярпеннем чакаюць пачатку біятлоннага сезона. І ўжо 2 снежня ў Славеніі стартуе першы этап Кубка свету.*




Зараз нацыянальная каманда і кандыдаты ў зборную знаходзяцца ў Фінляндыі на зборах, якія працягнуцца да 27 лістапада.

*«28 лістапада спартсменкі адправяцца ў славенскую Паклюку на першы этап Кубка свету і на першы этап Кубка IBU*, – распавёў старшы трэнер жаночай каманды **Васіль Лешчанка**. – *У нас запланаваны дзве кантрольныя трэніроўкі бліжэй да канца збораў. Па іх выніках і будзем фарміраваць склад зборнай для ўдзелу ў Кубку свету. Асноўны касцяк каманды – гэта Ірына Крыўко, Дар'я Юркевіч, Ганна Сола і Дзінара Алімбекава (на фота). Магчыма, пазней да іх дададуцца сёстры Кручынкіны, якім неабходна выканаць некаторыя крытэрыі для ўдзелу ў Кубку IBU».*

Паводле інфармацыі Федэрацыі біятлона, зараз у Фінляндыі трэніруюцца **Уладзімір Чапелін, Сяргей Бачарнікаў, Максім Верабей, Антон Смольскі, Віктар Крыўко, Дзмітрый Лазоўскі, Мікіта Лабастаў, Ірына Крыўко, Дзінара Алімбекава, Дар'я Юркевіч, Ганна Сола, Іна Касцючэнка, Алена і Ірына Кручынкіны, Ганна Мусатава і Арына Яборава.**

Як вядома, у гэтым сезоне ў зборную дадаўся значны «расійскі дэсант», і некаторыя спартсмены, шчыра кажучы, проста ўражваюць. І зусім не поспехамі ў біятлоне. Напрыклад, 20-гадовая расіянка **Ганна Мусатава** – майстар спорту міжнароднага класа па мастацкай гімнастыцы і біятлонам пачала займацца толькі чатыры гады таму. Змяніла від спорту з-за траўмы.

Яшчэ адна запрошаная расіянка **Іна Касцючэнка** – былая лыжніца. І калі з бегам па трасе ў яе ўсё на ўзроўні, то да гэтага лета яна… вінтоўку ў руках не трымала.

Спартсменка распавяла расійскім СМІ, што ў зборную Беларусі патрапіла, бо з'явіўся шанц выступіць на высокім узроўні». У Расіі такога шанцу ў яе не было.

*«Падчас сумесных збораў з беларусамі паступіла такая прапанова*, – расказала Іна Касцючэнка life.ru. – *І я вырашыла рызыкнуць. Тым больш калі нешта не атрымаецца, то заўсёды можна вярнуцца. Пакуль пачатак сезона складваецца незвычайна. Да лета я і вінтоўку ў руках не трымала, а зараз – у нацыянальнай камандзе па біятлоне. Трэнеры сказалі, што страляць я буду, але патрэбны час. Пакуль у мяне стральба такая – пяцьдзясят на пяцьдзесят».*

Адным словам, кадры яшчэ тыя. Час пакажа, што з іх атрымаецца…

**Алесь СІВЫ.**




ГІСТОРЫЯ Ў АСОБАХ



# Раман Скірмунт: шлях ад дэпутата Расійскай Думы да прэм'ер-міністра БНР

*Канферэнц-зала гатэля «Манастырскі» ледзь змагла змясціць усіх зацікаўленых гісторыяй жыцця гэтага чалавека. Паспяховага гаспадарніка, забітага сялянамі ў роднай вёсцы амаль 80 гадоў таму, якога да гэтай пары аплакваюць старажылы той самай вёскі. Працадаўцу Максіма Багдановіча, які адправіў паэта на лячэнне ў Крым. Палітыка, які напісаў праграму ўрада Беларускай Народнай Рэспублікі. Свежавыдадзены 700-старонкавы жыццяпіс Рамана Скірмунта прадставіў публіцы аўтар – доктар гістарычных навук* ***Алесь СМАЛЯНЧУК****. Як і трэба было чакаць, кніг хапіла далёка не ўсім. Назаўтра мы сустрэліся з гісторыкам, каб вызначыць галоўнае ў біяграфіі яго героя.*

**– Алесь, вы называеце Рамана Скірмунта «грамадзянінам Краю», палітыкам трох дзяржаў, гаспадарнікам, які стварыў «беларускі Ліверпуль у сваім маёнтку на Ясельдзе»… А кім ён сам сябе лічыў?**

– Раман Скірмунт сапраўды быў палітыкам трох краін. Да 1917 года ён быў дэпутатам Дзяржаўнай Думы Расійскай імперыі і членам Дзяржаўнага Савета, у 1918-м фарміраваў урад БНР, а ў 1930-м быў абраны ў Сенат Польшчы. На пачатку XX стагоддзя ён называў сябе «беларусам польскай культуры». Гэта супольнасць заўсёды лічыла сваёй радзімай не Польшчу, а Беларуска-Літоўскі край. І Скірмунт быў адным з найбольш прыкметных «краёўцаў».

**– Буйны землеўласнік, дзяржаўны дзеяч вялізнай імперыі, як ён прыйшоў у беларускі рух?**

– Калі пасля 1905 года стала магчымай палітычная дзейнасць, Скірмунт кантактаваў з асяродкам «Нашай Нівы», з мінскім памешчыкам Эдвардам Вайніловічам, які быў для многіх узорам «літоўскага шляхціца» (пазней яны пасябравалі). Тады якраз пецярбургская суполка «Загляне сонца і ў наша ваконца» задумала выдаць папулярную кніжку па гісторыі Беларусі на роднай мове. З гэтай ідэяй звярнуліся да Канстанцыі Скірмунт (Раманавай стрыечнай сястры, аўтаркі трох кніжак пра гістарычную Літву). Яна адмовілася, і тады прапанова была перанакіравана Раману Скірмунту. Дарэчы, ён быў у сяброўскіх адносінах і з вядомай мецэнаткай Магдаленай Радзівіл. Ёсць інфармацыя, што якраз у яе маёнтку ў Кухцічах Скірмунт сустракаўся з нашаніўцамі.

**– Вы пішаце, што і Максім Багдановіч у гэтым сэнсе паспрыяў Скірмунту.**

– Так, гэта адбылося ў 1916 годзе, калі паэт працаваў у Мінскім губернскім харчовым камітэце сакратаром, а камітэтам кіраваў якраз Скірмунт. З кастрычніка 1916 года па люты 1917-га яны мусілі штодзённа кантактаваць. Пра тое спрыянне пазней згадваў Аркадзь Смоліч у сваіх паказаннях 1930 года, калі быў арыштаваны па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Смоліч пісаў, што Багдановіч вёў перамовы з памешчыкамі, з арыстакратамі і перацягваў іх на беларускі бок. І калі хворы на сухоты Багдановіч звярнуўся да кіраўніка камітэта аб дапамозе, то атрымаў двухмесячны адпачынак з захаваннем заробку і яшчэ 200 рублёў на лячэнне. І змог выехаць у Крым, адкуль ужо не вярнуўся.

**– Радзіма Скірмунта – Парэчча на Піншчыне, дзе ў яго былі прамысловыя прадпрыемствы. Што там выраблялася?**

– Асноўным прадпрыемствам была суконная фабрыка, заснаваная яшчэ ў 1830 годзе дзедам Рамана, Аляксандрам Скірмунтам. У часы Рамана тая фабрыка працягвала прыбыткова працаваць, на ёй былі задзейнічаны каля 250 рабочых. Яе прадукцыя прадавалася па ўсёй Расійскай імперыі, у Польшчы. Ёсць звесткі, што перад Першай сусветнай вайной Скірмунты падпісалі дамову з расійскім Міністэрствам абароны і пастаўлялі тканіну для афіцэрскіх шынеляў. Сукно Парэцкай фабрыкі атрымала шэсць медалёў на розных сусветных выставах, у тым ліку ў Парыжы, Лондане, Вене і Маскве. Дарэчы, у музеі Палесся ў Пінску можна пабачыць узоры парэцкага сукна. Там яно, праўда, прадстаўлена як народнае ткацтва… У Парэччы дзейнічалі таксама цукраварня і вінакурны завод. Вельці цанілася парэцкая гарэлка – скірмунтаўка.

**– Рэцэпт захаваўся?**

– На жаль, не. А яшчэ Скірмунты выраблялі ўласнае віно, бо мелі вінаграднікі ў Італіі.




Р. Скірмунт (4-ы справа) на сустрэчы з прэзідэнтам Польшчы І.Масціцкім. 1930-я гады.

**– Пару гадоў таму я быў у Парэччы. Найбольш уразіў парк з дрэвамі самых экзатычных народ. Ходзіш, як па Батанічным садзе.**

– Так, у тым парку да нашых дзён дажылі каля 30 унікальных дрэў. Напрыклад, балотны кіпарыс, радзіма якога – субтрапічныя балоты Фларыды. У Парэччы ён вымахаў на 10 метраў у вышыню.

**– Раман Скірмунт пісаў свае кнігі па-польску, у Расійскай Думе выступаў па-руску. А наколькі добра ён валодаў беларускай мовай?**

– У 1917 годзе ён выступаў на мітынгу ў Мінску. Паводле ўспамінаў ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага, Скірмунт прамаўляў па-беларуску добра, але трохі з палескім акцэнтам (замест *што* казаў *шчо*). Гадлеўскі зазначаў, што «прамова Скірмунта была высокапатрыятычнай з беларускага пункту гледжання і выклікала ў прысутных буру воплескаў». У архівах я знайшоў яго заявы, адрасаваныя старшыні Рады БНР Язэпу Лёсіку, напісаныя па-беларуску. І дэкларацыя ўрада, які фарміраваў Раман Скірмунт у 1918-м, была на беларускай мове. Пісаў ён па-беларуску і для газеты «Вольная Беларусь», якую рэдагаваў Язэп Лёсік. Дарэчы, у згаданай дэкларацыі недвухсэнсоўна гаворыцца: «Урадовай мовай Беларускай Дзяржавы мусіць быць мова беларуская».

**– І ўсё ж у беларускай патрыятычнасці Скірмунта сёй-той сумняваўся.**

– І ён мусіў апраўдвацца. У 1917 годзе пісаў у адным з лістоў: «Я сам ураджэнец Беларускага Палесся, мае продкі да XVII стагоддзя карысталіся беларускай мовай як дамашняй. Я заўсёды быў і буду горача адданы сваёй радзіме і свайму народу. Іх месцазнаходжанне не за Нёманам і Бугам, не на Волзе, а тут, у Беларусі».

**– Аднак жа «палескі акцэнт» і раней даваў пра сябе знаць. Пра гэта мала хто ведае, але ў 1907 годзе выйшаў буквар на паляшуцкай гаворцы, і таксама з удзелам Скірмунта. Ці бачылі вы той буквар?**

– Бачыў. Ці не адзіны асобнік таго буквара (арыгінальная назва – «Русынскы лэмэнтэр») зберагаецца ў Расійскай нацыянальнай бібліятэцы ў Пецярбургу. Мне зрабілі копію. Ён з'явіўся на свет дзякуючы тром чалавекам – Канстанцыі Скірмунт, Раману Скірмунту і Юзэфе Кужанецкай. Той лемантар я лічу яшчэ адной спробай супрацьстаяць русіфікацыі. Калі Юзэфа Кужанецкая ў 1914 годзе памерла (пахавана ў Пінску), Скірмунт напісаў некралог, у якім прыпісаў аўтарства буквара выключна ёй. Але я ўпэўнены, што адзін чалавек не мог такое выданне падрыхтаваць. Да таго ж Скірмунт стварыў слоўнік палескай гаворкі. Думаю, што ў палескага буквара было ўсё ж тры аўтары.

**– Мне згадваецца, як на пачатку 1990-х сёй-той, адштурхоўваючыся ад таго буквара, спрабаваў рабіць вялікую палітыку. Мэтай было ледзь не аддзяленне Палесся ад Беларусі. Аб'ехаўшы і пінскае, і рэчыцкае Палессе, вы зразумелі, што гэта за з'ява – палешукі?**

– Паляшуцкасць для мяне застаецца загадкай. Два гады мы ездзілі ўздоўж Прыпяці, і я так і не пабачыў палешукоў. Людзі там гавораць па-беларуску, па-руску, на трасянцы. Потым мне светлай памяці мовазнавец Фёдар Клімчук растлумачыў, што палешукі з чужымі людзьмі саромеюцца размаўляць на сваёй гаворцы. Палессе – яно нейкае няўлоўнае. Помню, прыязджаем у экспедыцыю, размаўляем з людзьмі, пытаемся пра Палессе. А нам гавораць, што Палессе не тут, а за рэчкай. Мы едзем за рэчку – там кажуць, што Палессе за лесам. Едзем за лес – і там няма Палесся… Урэшце прыехалі ў Глінішчы, на радзіму Івана Мележа. І там людзі не прызнаваліся, што яны палешукі. Мы здзівіліся: як так, Мележ жыў у вашай вёсцы, напісаў пра вас «Палескую хроніку»! Прыціснулі глінішчанцаў, і яны прызналіся, што жывуць на Палессі. Але тут жа на пытанне, ці ёсць у вёсцы палешукі, катэгарычна адказалі: няма і ніколі не было...

**– У 1918 годзе фактычна існавалі два ўрады БНР – Язэпа Варонкі і Рамана Скірмунта. Гэту сітуацыю называлі «двоеўраддзем». Хто быў зацікаўлены ў расколе тагачасных беларускіх палітычных сіл?**

– Ад таго «двоеўраддзя» была каласальная шкода, яно моцна дыскрэдытавала беларускі рух. Рашэнне Рады БНР аб фарміраванні кааліцыйнага ўрада Рамана Скірмунта з'явілася, бо ўрад Варонкі перажываў моцны фінансавы крызіс. Рада спадзявалася, што актыўная дзейнасць Скірмунта паспрыяе таксама наладзіць лепшыя стасункі з немцамі, якія ў 1918 годзе акупавалі значную частку Беларусі. Праўда, калі прадстаўнік нямецкага камандавання маёр Вульфэн прыняў беларуска-польскую дэлегацыю, у склад якой уваходзіў і Скірмунт, то прызнаўся ў намеры разагнаць Беларускую Раду. І 25 лютага немцы прымусілі беларускі ўрад пакінуць Дом губернатара, канфіскавалі казну і знялі з гмаху бел-чырвона-белы сцяг.

**– Але Скірмунт усё ж бярэцца фарміраваць свой урад?**

– Ён яго фактычна сфарміраваў. Але ў гэты час Язэп Варонка атрымаў вялікія грошы – 150.000 рублёў прыйшлі з Украіны, украінцы разлічыліся за беларускую драўніну. З іншага боку, немцам, якія Скірмунта добра ведалі, не спадабалася, што можа паўстаць моцны беларускі ўрад, які стане прыкметнай сілай на міжнароднай арэне. Бо немцы хоць і разыгрывалі беларускую карту, ніколі сур'ёзна не думалі пра незалежнасць Беларусі. Для немцаў галоўным быў нейтралітэт Расіі. Таму яны зрабілі ўсё, каб беларускімі ж рукамі знішчыць урад Скірмунта. У выніку Язэп Варонка не перадаў яму ні пячатку, ні паўнамоцтвы, заявіўшы, што Скірмунт – гэта дзяржаўны пераварот у Радзе БНР. Канфлікт быў страшны і непрыемны, ён паказаў слабасць і разрозненасць беларусаў. Думаецца, немцы ўмела выкарысталі амбіцыі палітыка Язэпа Варонкі і зрабілі ўсё, каб беларускі рух пасварыць і раскалоць. Сфарміраваны Скірмунтам урад так і не пачаў дзейнічаць.

**– Ведаю, што вы паспелі запісаць успаміны людзей, якія памяталі Скірмунта. Якім ён застаўся ў людской памяці?**

– Калі я ў 1999 годзе ўпершыню прыехаў у Парэчча, то здзівіўся, наколькі «добры пан» і «наш Скірмунт» прысутнічаў у памяці вяскоўцаў. Вось як, напрыклад, згадвала яго Вольга Хвясюк (1933 года нараджэння): «Такіх паныв, як наш пан, то нігдзе, наверное, не було. Очэнь-очэнь буў добры». А на дзесяць гадоў старэйшая Улляна Мельнік успаміналa: «Добрэнны пан наш був, добрэнны! Як ён людзей шановаў! У кого не було, тому поля по кавалку даваў, то жыта дасць, у кого бракуе». І такіх характарыстык я мог бы прывесці дзясяткі.

**– А на чым ездзіў «дабрэнны пан»?**

– У Скірмунта быў спачатку «б'юік», потым «додж». Я яшчэ застаў шафёра Мікалая Куцко, які яго вазіў. Звычайна ў Моладава ці ў Пінск, дзе пан перасядаў на цягнік. Шафёр, дарэчы, атрымліваў найбольшы заробак у маёнтку – 100 злотых у месяц. Апрача таго, Скірмунт забяспечваў яго кватэрай, харчаваннем, вопраткай і нарэшце выдзеліў 8 гектараў зямлі.

**– З выгляду відны мужчына, багаты гаспадар, чаму Скірмунт так і не завёў сям'і?**

– Жыхары Парэчча тлумачылі гэта нежаданнем Скірмунта дзяліць маёнтак. Пэўнага адказу на гэта пытанне ў мяне няма. А вось каханне, відаць, усё ж яго не абмінула. Вельмі асцярожна вяскоўцы расказвалі пра ўдаву Кацярыну Цярэшка, пра іх «засакрэчаную любоў». Яе муж быў фурманам у маёнтку, аднойчы яго панеслі коні, і ён забіўся. Паводле ўспамінаў сваякоў, ён не мог мець дзяцей. А ў Кацярыны іх было чацвёра – Алеся, Уладзімір, Пятро і Раман… У вёсцы іх па-вулічнаму называлі Скірмунтавымі. Той жа Мікалай Куцко на пытанне, чаму ён лічыць іх дзецьмі пана, адказаў: «Падобныя, як партрэты». І дадаў: «Як сцямнее, Цярэшка хустку на галаву і сама бяжыць да яго».

**– Дзейнасць у структурах БНР, прадпрыемствы ў Парэччы, вялікія абшары зямлі ва ўласнасці – усё гэта выглядала недаравальным грахом у вачах савецкай улады, якая прыйшла на Піншчыну ў 1939-м. Няўжо Скірмунт быў такі наіўны і лічыў, што яго пакінуць у спакоі? Чаму ён застаўся на радзіме?**

– Усё адбылося вельмі хутка. 17 верасня Чырвоная Армія перайшла мяжу, 18-га Скірмунт выехаў у Пінск, 20-га там ужо былі савецкія вайскоўцы. Скірмунта адразу арыштавалі, суткі ён прабыў у турме. Спісалі ўсе дадзеныя і выпусцілі. Нейкі час ён жыў у Пінску, потым вярнуўся ў Парэчча. У тыя часы на Палессі адбываліся жудасныя рэчы, сяляне забівалі памешчыкаў, да гэтага іх падштурхоўвала новая ўлада. Але часам сяляне баранілі сваіх паноў. І Скірмунт, відаць, на гэта спадзяваўся, у яго заўжды былі добрыя адносіны з вёскай. Ён вярнуўся ў Парэчча, дзе ўжо сядзеў камісар Марозаў. І аказалася, што вярнуўся на смерць.

**– Раней паўсюль пісалі, што з «памешчыкам-прыгнятальнікам» Скірмунтам расправіліся мясцовыя сяляне. А як было насамрэч?**

– Я ўпэўнены, што забойства Скірмунта 7 кастрычніка 1939 года было здзейснена па загадзе ўлады. Па-першае, гэта рабіў мясцовы сялянскі камітэт, а не нейкія там бандыты з лесу. Ёсць канкрэтныя імёны. Галоўны забойца – Сільвестр Лукашык (мянушка *Соловэй*). У Парэччы знаходзіўся камісар (нават некалькі), стаяла вайсковая часць. Нічога сур'ёзнага не магло адбыцца без дазволу і загаду ўлады. Камісар Марозаў паведаміў сваякам Скірмунта, што яго павязуць у Пінск на допыт. Не маглі ж сяляне парушыць загад і забіць пана па ўласнай ініцыятыве ў лесе каля Парэчча. Вяскоўцы прыгадвалі, што перад смерцю Лукашык прапанаваў Скірмунту павярнуцца, той адмовіўся: «Я ад людзей ніколі не адварочваўся, кожнаму, хто прасіў, помач даваў». Лукашык стрэліў у твар. Пазней жаліўся перад аднавяскоўцамі, што забіты пан яму ў вачах стаіць...

**– На месцы пахавання Рамана Скірмунта сёння стаяць два крыжы – з надпісамі па-беларуску і па-польску. Дакладнае месцазнаходжанне магілы невядомае?**

– Можна было б правесці эксгумацыю і знайсці магілу. Але тут цэлы шэраг пытанняў паўстае. Галоўнае з іх – ці патрэбна сучаснай Беларусі магіла Скірмунта? Думаецца, лепш тое месца пакуль не кранаць. Да таго ж там пахавана і забітая партызанамі ў 1942 годзе Алена Скірмунт – яго сястра. Дзіўна, вядома ж, калі прыязджаеш і бачыш два разнамоўныя крыжы, як быццам там два розныя Раманы Скірмунты ляжаць. Гэта паказвае, наколькі разышлася гісторыя Польшчы і Беларусі ў XX стагоддзі. Каб там усё выглядала па-людску, павінен усё ж стаяць адзін крыж, хай сабе і з надпісамі на розных мовах. Думаю, калісьці так і будзе.

**Міхась СКОБЛА.**

